Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 50 (4748) 20 снежня 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Леаніда Бранявога з 85-годдзем. «На беларускай зямлі Вас цэняць як выдатнага акцёра, творчасць якога складае асаблівую старонку ў гісторыі савецкага і расійскага мастацтва і садзейнічае пашырэнню і ўзбагачэнню культурных сувязей паміж нашымі народамі. Упэўнены, што Вы яшчэ доўгія гады будзеце радаваць нас сваім талентам і майстэрствам», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Сталі вядомы лаўрэаты ІІІ Нацыянальнай музычнай прэміі ў галіне эстраднага мастацтва. Цырымонія ўзнагароджання адбылася 16 снежня падчас гала-канцэрта ў Палацы Рэспублікі. У намінацыі «Лепшая песня года» перамагла Іна Афанасьева. Лепшымі названы: поп-выканаўца Алёна Ланская, рок-калектыў «Без білета», джаз-выканаўца *Apple tea*, этна-фолк-калектыў — аркестр ансамбля «Харошкі», аўтары музыкі — Леанід Шырын і Юрый Вашчук, аўтар слоў Павел Берташ, аранжыроўшчык Святаслаў Пазняк. Сярод беларускамоўных песень найлепшай стала кампазіцыя «Танчыць» у выкананні групы *ili — ili*, музычных альбомаў — альбом *Traukamurauka* групы *Kriwi*, песень (музычных альбомаў) для кіно, тэлебачання — песня «Сляды апосталаў» у аднайменнай кінастужцы, канцэртаў года — творчы рок-праект «Дым над вадой» Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь. Лепшы гастрольны тур — у Гюнеш, а таксама ў Ірыны Дарафеевай і групы «Форс-Мінор», кліп года — «Станцыя» (сумесны праект груп «У нескладовае» і «Браты Грым»). Лепшы журналіст (музычны крытык) — Таццяна Мушынская (часопіс «Мастацтва»). За ўклад у развіццё сучаснай музыкі адзначаны народны артыст Беларусі, кампазітар Эдуард Ханок.

✔ Другі год запар у Мірскім замку на пачатку года праходзяць стылізаваныя калядныя балі для дзяцей і дарослых. 3 студзеня ў Партрэтнай зале госці адчуюць рамантыку старасвецкага балю. А 4 студзеня ў замку адкрыецца рэтрасалон ХХ стагоддзя. У праграме — танцы, фотаздымкі ў інтэр'еры 20 — 30-х гадоў ХХ ст, нямое кіно, начная экскурсія па шыкоўных залах.

**Падрыхтавала**
**Міра ІЎКОВІЧ**





*Фота Кастуся Дробава*



*Падчас адкрыцця Каляднага дабрачыннага балю кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

## Пытанне да творцы

# Набываючы кнігу, ці звяртаеце ўвагу на афармленне?



**Валянціна Паліканіна, паэтэса, лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў намінацыі «Мастацкая літаратура»:**

— Я гляджу на кнігу ў цэлым. Змест павінен адпавядаць маім пажаданням: проза любімага пісьменніка, зборнік любімага паэта ці альбом, прысвечаны творам любімага мастака. Канечне, вельмі важнае для мяне і афармленне. Я заўсёды звяртаю ўвагу на прозвішча мастака і агульную канцэпцыю афармлення кнігі. На жаль, цяпер аўтары маюць досыць сціплыя магчымасці ўпрыгожыць сваю кнігу каляровымі малюнкамі. Каб зрабіць выданне больш танным, даводзіцца ісці на кампраміс: абыходзіцца ўвогуле без ілюстрацый ці змяшчаць у кнізе чорна-белыя выявы. Але ўсё роўна нават у такіх сціплых умовах вельмі важнае значэнне для мяне мае вокладка. Калі ў кнізе і няма ілюстрацый, то яе вокладка павінна быць афармлена з такой любоўю, каб выданне захацелася ўзяць у рукі.



**Ганна Трусевіч, дырэктар выдавецтва «Беларусь»:**

— Мяне ў першую чаргу цікавіць змест. Але, безумоўна, хочацца, каб да гэтага зместу дадавалася і прыгожая знешняя форма. Кніга — гэта твор мастацтва. Таму, распрацоўваючы свае выданні, мы імкнёмся да таго, каб яны атрымліваліся сапраўды прыгожыя. Я аматар гісторыі, і профіль нашага выдавецтва на ўсе 100 працэнтаў супадае з маімі асабістымі чытацкімі перавагамі. Гэта беларуская гісторыя, культура. Спадзяюся, вынікі нашай працы радуюць вока і сэрца не толькі супрацоўнікаў выдавецтва, але і чытачоў.



**Барыс Луцэнка, народны артыст Рэспублікі Беларусь, рэжысёр-пастаноўшчык Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага:**

— Набываючы кнігу, абавязкова крыху знаёмлюся са зместам, мне патрэбна ведаць, які прадукт я атрымліваю як пакупнік. Калі ў кнізе закранутыя струны душы аўтара, якога я разумею, прачытаўшы толькі некалькі радкоў, то такое выданне абавязкова набуду. У любым афармленні, нават калі кніга выйшла ў самвыдаце.

# Два юбілеі — чатыры кнігі?

12 снежня ў бібліятэцы № 1 імя Льва Талстога адбыўся літаратурны вечар «Згадваем прызабытых аўтараў». Мерапрыемства было прысвечана двум літаратурным юбілеям: 120-годдзю з дня нараджэння Андрэя Мрыя (Андрэя Шашалевіча) і 110-годдзю з дня нараджэння Тамары Цулукідзэ, вядомай грузінскай артысткі, аўтаркі многіх твораў на рускай, грузінскай, беларускай мове.

Т. Цулукідзэ была жонкай знакамітага рэжысёра С. Ахметэлі, знаходзілася ў высылцы, пасля рэабілітацыі выконвала вядучыя ролі ў тэатры імя Шата Руставелі (Тбілісі). Урэшце як верная спадарожніца жыцця пераехала ў Мінск да Алеся Пальчэўскага, з якім пазнаёмілася яшчэ ў зняволенні. Арсень Ліс падзяліўся ўспамінамі пра гэту «вельмі сімпатычную, інтэлігентную пару»: у маладосці Арсеню Сяргеевічу давялося жыць у адным пад'ездзе з А. Пальчэўскім — празаікам, перакладчыкам, дзіцячым пісьменнікам.

Маладая даследчыца Анастасія Наркевіч адзначыла, што А. Пальчэўскі і Т. Цулукідзэ разам пачалі пісаць для дзяцей. Дзіцячыя кнігі Т. Цулукідзэ былі выдадзены на рускай мове, але ў часопісе «Вясёлка» друкаваліся яе беларускамоўныя апавяданні.

Творчасць Андрэя Мрыя была галоўнай тэмай выступленняў супрацоўнікаў АН Валерыя Назарава і Ігара Шаладонава. Журналіст Іван Ждановіч удакладніў месца нараджэння А. Шашалевіча: гэта не Палуж Краснапольскага раёна, як пазначана ў даведніках, а вёска Доўгавічы, якая цяпер уваходзіць у склад Мсціслаўскага раёна. Новая версія мае дакументальнае пацвярджэнне, яе прытрымліваецца і дачка пісьменніка Наталля Андрэеўна Прушынская, якая сыходзіць з успамінаў маці.

Падчас літаратурнага вечара можна было таксама пачуць пра беларускіх самаходаў у Цюмені, пра сяцсёр Сяргея Палуяна, пра кнігу навел Леаніда Маракова, а таксама ўзяць удзел у актуальнай дыскусіі «За энтузіязм ці за фінансаванне павінен працаваць беларускі літаратуразнаўца?»

У выніку сустрэчы было вырашана падрыхтаваць да выдання творы А. Мрыя, В. Шашалевіча, Т. Цулукідзэ і А. Пальчэўскага. Кнігі пабачаць свет у выдавецтве «Кнігазбор», найверагодна — у новай серыі «Прызабытыя імёны Беларусі».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Гомельшчына. Пачатак вызвалення

У Гомелі прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «1943 год на Гомельшчыне». Сярод арганізатараў — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Гомельскі гарвыканкам, Гомельскі абласны музей воінскай славы. Ужо самі назвы дакладаў, выступленняў сведчаць пра высокі ўзровень распрацоўкі праблематыкі, звязанай з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны на Гомельшчыне, у прыватнасці, тэмы вызвалення гэтага рэгіёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прывядзём прыклады: Аляксей Літвін — «Сустрэчны фронт: дзейнасць партызан Беларусі ў першы перыяд вызвалення Беларусі (верасень 1943 — красавік 1944 гг.)», Ірына Варанкова — «Партызанскі рух на Прыпяцкім Палессі ў пачатку вызвалення Беларусі (1943 г.)», Яраслаў Бязлепкін — «Гомельшчына партызанская ў гістарыяграфіі ЗША і Вялікабрытаніі», Анатоль Шаркоў — «Гомельскі судовы працэс над нацысцкімі злачынцамі», Міхаіл Абраменка — «Азарыцкая трагедыя вачыма сведкаў» і інш. У канферэнцыі ўдзельнічалі і пісьменнікі, публіцысты — члены Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кандыдат гістарычных навук Барыс Далгатовіч прысвяціў сваё выступленне тэме «Вызваленне Брагіншчыны: людзі, падзеі, факты».

**Мікола БЕРЛЕЖ**

*За падзеяй*

# Этнаграфічная скрыня

Выстаўка «Белая Русь і яе суседзі» працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі. Гэта сумесны праект Расійскага этнаграфічнага музея (Санкт-Пецярбург) і Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, які падрыхтаваны спецыяльна для экспанавання ў Мінску і прэзентуецца ўпершыню.

Экспазіцыя налічвае больш як 700 аўтэнтычных помнікаў традыцыйнай культуры беларусаў, літоўцаў, латышоў, палякаў, украінцаў і іншых — усіх этнасаў, што некалі складалі адну дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае. Увазе гледача прадстаўлены традыцыйныя касцюмы, якія ствараюць яркія візуальныя вобразы славянскіх народаў, падкрэсліваюць агульныя рысы і паказваюць адметнасць кожнай з культур. Адной з цэнтральных тэм выступае вясельны комплекс — своеасаблівы этнічны сімвал народаў. Дэманструюцца скрыні з пасагам, сталовае начынне, адзенне. Надаецца ўвага тэме рэлігіі, канфесіям як важнай часткі нацыянальнага адзінства і культурнай разнастайнасці народаў. У прыватнасці, паказаны атрыбуты святкавання Вялікадня — бажніцы, ручнікі, яйкі-пісанкі ды іншыя прадметы.

На выстаўцы экспануюцца і матэрыялы, якія распавядаюць пра рамесныя традыцыі — ткацтва, дрэваапрацоўкі, ганчарства, кавальскай справы. Сапраўднай перлінай экспазіцыі з'яўляецца калекцыя ўнікальных музычных інструментаў, перш за ўсё шчыпковых і духавых, якія даюць уяўленне пра агульныя рысы музычнай культуры народаў Белай Русі і яе суседзяў.



Фота Кастуся Дробава

Труба. XIX ст.

Размешчаны на выстаўцы ілюстрацыйны матэрыял — копіі твораў мастакоў XIX ст. Генрыха Мітрэйтэра, Ёхіма Паулі, Дзмітрыя Лявіцкага — дадае фарбы ва ўспрыманне этнаграфічнай рэчаіснасці XIX стагоддзя.

Выстаўка «Белая Русь і яе суседзі» падрыхтавана пры фінансавай падтрымцы кампаніі *Japan Tobacco International* у Рэспубліцы Беларусь і СП ЗАТ «Мілавіца». Дарэчы, падчас адкрыцця экспазіцыі Нацыянальны гістарычны музей Беларусі і *Japan Tobacco International (JTI)* падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве на 2013 — 2015 гады, якое падтрымлівае закладзеныя раней традыцыі партнёрства паміж кампаніяй і музеем.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Творчы род Клешчукоў

Дом Коласа быў і застаецца своеасаблівым духоўным цэнтрам жыцця сталіцы, дзе пануе творчая і сяброўская атмасфера. Пры жыцці Песняра тут частымі гасцямі былі вядомыя пісьменнікі, мастакі, артысты, музыканты, вучоныя, блізкая і далёкая радня. Якуб Колас быў не толькі славутым паэтам, навукоўцам, настаўнікам, але і духоўным апекуном таленавітых асоб. Сярод тых, з кім паэт сябраваў і каму спрыяў, — мастакі Таццяна Жырмунская, Сямён Герус, Галіна Гарэлава, Янка Лабкоўскі, скульптар Заір Азгур і інш. Таму і не дзіўна, што менавіта ў Доме песняра, дзе з часоў жыцця гаспадара пануе творчая атмасфера, ужо традыцыйнымі сталі сустрэчы ў межах праекта «Творчыя сем'і ў Доме Коласа». Гэтым разам наведвальнікі сустрэліся з сем'ямі фотамастака, журналіста, фотакарэспандэнта газеты «Звязда» Анатоля Клешчука і народнага майстра, скульптара Сяргея Клешчука.

— Прайшла ўжо не адна вечарына ў межах праекта «Творчыя сем'і ў Доме Коласа» — былі ў нас розныя цікавыя сем'і, — адзначыла дырэктар музея Зінаіда Камароўская. — А сёння ў гасцях нават не сям'я, а род Клешчукоў. Усім вядома імя фотамайстра Анатоля Клешчука, у якога шмат цікавых творчых знаходак, праектаў. Да 130-годдзя Якуба Коласа і Янкі Купалы ім выдадзены цудоўны альбом «Беларусь. Зямля песняроў». Ён прайшоў практычна ўсе коласаўскія мясціны. Яго брат Сяргей Кляшчук — рэзчык па дрэве, які стварыў вельмі цікавыя вобразы коласаўскіх герояў, з'яўляецца адным з аўтараў скульптур мемарыяльнага комплексу «Шлях Коласа», створанага па матывах твораў Песняра ў Стаўбцоўскім раёне.

У межах сустрэчы браты Клешчукі прадставілі выстаўку, якая з'яўляецца толькі маленькай кропелькай зробленага таленавітымі творцамі. Цікава, што дочкі абодвух майстроў надзелены іскрай Божай: Вольга пайшла па слядах бацькі і стала фотакарэспандэнтам, а Ганна працуе ў музычным тэатры бутафорам-мастаком. Акрамя таго ў склад экспазіцыі ўвайшлі мастацкія работы Барыса Сталярова, блізкага сябра сям'і Клешчукоў.

**Таццяна ШЫМУК**

*Тэле-ЛіМ*

# Новы год з «Дыя@блогам»!

Вядучыя праекта «Дыя@блог» на тэлеканале «Беларусь 3» прапануюць разам сустрэць Каляды і Новы год. Гледачоў чакаюць сапраўды святочныя выпускі.

23 снежня (10.25, 22.30) да Навума Гальпяровіча завітае студэнт гістарычнага факультэта БДУ, будучы менеджар па культурнай спадчыне і турызме Дзяніс Філіпчык. Госць распавядзе пра каталіцкі абрад «Намётка», які дзякуючы руплівасці маладога даследчыка можа патрапіць у спіс нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны нашай краіны.

Таццяна Сівец і Стэла Чыркова 24 студзеня (10.25, 22.05) чакаюць у студыі маладую паэтэсу, выкладчыцу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вольгу Гронскую. Госця прапануе парады тым, хто марыць стаць вядомым у інтэрнэце, і пачытае калядныя вершы.

Паразважаць «Пра вечнае» вядучы Аляксандр Цярэшчанка запрасіў Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча і намесніка дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Аляксандра Храмога. Гаворка пойдзе пра невядомыя традыцыі святкавання Каляд, а таксама значнасць рэлігійных сюжэтаў у мастацтве. Далучыцца да дыскусіі можна 26 снежня (10.20, 21.40).

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Каляндар-падручнік

Нацыянальны мастацкі музей да свайго 75-годдзя выпусціў каляндар на 2014 год. Праект падтрыманы закрытым акцыянерным страхавым таварыствам «Белнафтастрах».

Як паведаміў падчас прэзентацыі дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, выданне ўпрыгожваюць творы 12 самых вядомых беларускіх класікаў, такіх, як Іван Ахрэмчык, Вітольд Бялыніцкі-Біруля, Віталь Цвірка, Віктар Вярсоцкі, Апалінарый Гараўскі, Мікалай Дучыц, Станіслаў Жукоўскі і інш.

— Штогод страхавыя кампаніі традыцыйна друкуюць календары. Нацыянальны мастацкі музей ахвотна пайшоў насустрач у нашым жаданні надрукаваць каляндар са збору карцін музея, — распавёў дырэктар ЗАСТ «Белнафтастрах» Юрый Нясмашны. — Гэта ўжо другі досвед супрацоўніцтва кампаніі з НММ. Цяпер мы адбіралі карціны для календара, улічваючы, каб работы былі менавіта нацыянальных мастакоў і адлюстроўвалі прыроду Беларусі ў кожным месяцы года.

Паводле Уладзіміра Пракапцова, календары папулярызуюць творчасць айчынных мастакоў, прапагандуючы багатую гісторыю і культуру. Сярод каляндарных работ ён вылучыў карціну Віталя Цвіркі. Мастаку ў гэтым годзе споўнілася б 100 гадоў. У календары надрукаваная яго работа «Каложа. Архітэктурны помнік XII стагоддзя». Дарэчы, на прэзентацыі календара 2014 года прысутнічала дачка Віталя Цвіркі, а таксама вучні мастацкай школы № 1, што носіць яго імя.



Фота Кастуся Дробава

Каляндар-2014 дэманструюць дырэктар ЗАСТ «Белнафтастрах» Юрый Нясмашны і дачка мастака Віталя Цвіркі Таццяна Цвірка.

— Гэта быў выключны майстар эпічнага пейзажу, які сёння з'яўляецца для нас класікам. Нягледзячы на тое, што ў нашым музеі прадстаўлена каля 60 твораў Віталя Канстанцінавіча, не кажучы пра абласныя і раённыя музеі, — адзначыў Уладзімір Пракапцоў. — Каляндар 2014 года — жывы падручнік творчасці мастакоў-класікаў для маладых творцаў.

**Таццяна ШЫМУК**

# Навука як песня

Адбыўся шэраг мерапрыемстваў у гонар 50-годдзя навуковай і творчай дзейнасці і 80-годдзя з дня нараджэння доктара мастацтвазнаўства, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Зінаіды Мажэйка.



Яе навуковая і творчая дзейнасць заўсёды разгортвалася ў дзвюх узаемазвязаных галінах — этнамузыкалогіі і этнакінематаграфіі. Адпаведна адбыліся прэзентацыя навуковых выданняў (у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі) і паказ дакументальных этнаграфічных фільмаў па сцэнарыях і палявой рэжысуры юбіляркі (у Музеі гісторыі беларускага кіно).

Падчас гэтых імпрэз можна было прасачыць шлях сапраўднага навукоўцы, усе памкненні якога — спраўдзіць асноўны прынцып акадэмічнай навукі: фундаментальнасць. Досвед З. Мажэйка сцвярджае: фундаментальнасць — не толькі прывілея навук дакладных, але і гуманітарных таксама. Выкарыстаны ёю сістэмна-тыпалагічны падыход паходзіць ад Б. Асаф'ева, Л. Макарынскай, Я. Гіпіўса, якія закладвалі асновы мастацтвазнаўства ў 1920-я гады. Прадоўжыўшы іх пошукі на глебе беларускай музычнай культуры, З. Мажэйка здолела выявіць эмацыянальны, субстанцыяльны і падсвядомы яе коды — сапраўдны космас народнага майстэрства, адметны адначасова элітарнасцю і дэмакратызмам. Варта дадаць, што зерне гэтых распрацовак кінутае ва ўдзячную глебу: сапраўднага вучонага пазнаюць па наяўнасці яго школы, перспектыўных вучняў — іх у З. Мажэйка, безумоўна, стае.

Кніга «Экалогія традыцыйнай народна-музыкальнай культуры» (2011) праблематызуе шляхі выжывання фальклору. Асноўным «механізмам» яго захавання З. Мажэйка бачыць «інтэрыярызацыю аўтэнтычнасці» — абарону фальклору ад уплыву сучаснай музычнай культуры (часам — псеўдакультуры). Існуе практыка імітацыі народнай творчасці — гэта не надае гонару ні імітатарам (прафесійным музычным калектывам), ні «прадмету» імітацыі, таму што выключае яго існасныя (аўтэнтычныя) адметнасці. «Фальклорны калектыў — гэта сістэма, якая сама сабой кіруе і сама сябе разгортвае, таму не церпіць умяшальніцтва звонку. Дарэчы, фундаментальная навука — таксама», — падкрэслівае З. Мажэйка.

З цеплынёй і ўдзячнасцю Зінаіду Якаўлеўну віншавалі загадчыца кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прафесар Вольга Дадзіёмава, намеснік дырэктара Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Валерый Жук, акадэмік НАН Беларусі Радзім Гарэцкі, галоўны рэдактар выдавецтва «Тэхналогія» Зміцер Санько, іншыя прадстаўнікі навукі, культуры, адукацыі і выдавецкай дзейнасці. Амаль кожны акрамя навуковых заслуг падкрэсліваў неардынарнасць, прыцягальнасць асобы юбіляркі. Выказалася і яна сама, распавёўшы гісторыю сваёй працы, прыгадаўшы даследчыкаўаднадумцаў, а таксама народных спевакоў, якіх лічыць сваімі настаўнікамі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Ад сэрца шчырага

Зборнік вершаў Валянціна Семянякі «Зорка залатая» пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда». Каб сустрэцца з паэтам і паслухаць яго вершы, аматары паэзіі сабраліся ў раённым Доме культуры г. п. Зэльва на прэзентацыю новай кнігі.




Імя Валянціна Семянякі даўно вядомае зэльвенскаму чытачу з літаратурнай старонкі раённай газеты «Праца» «Зоры над Зальвянкай». Амаль адначасова аўтар упэўнена дэбютаваў у рэспубліканскіх выданнях: штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкай газеце», часопісах «Маладосць» і «Полымя». У 2007 годзе быў выдадзены першы зборнік яго вершаў «На скрыжаванні». Сярод вершаў В. Семянякі шмат лірычных і вельмі меладычных, яны лёгка кладуцца на музыку.

Аўтар цікава спрабуе асэнсаваць сутнасць прафесіі настаўніка, якая звязаная не толькі з яго асабістай, але і сямейнай біяграфіяй: жонка Валянціна, сёстры Раіса і Людміла працуюць у педагагічнай сферы.

А не так даўно паэт пачаў працаваць у галіне дзіцячай літаратуры. Яго героі — унукі, якіх здзіўляе ўсё, што акружае. Валянцін Семяняка лічыць, што пісаць вершы для дзяцей больш складана, чым для дарослага чытача. Каб пераканацца ў тым, што Валянцін Семяняка цікавы і як гумарыст, варта пазнаёміцца з яго байкамі і сатырай. Па прызнанні самога паэта, усе вершы яму дарагія, бо ў кожны радок укладзена часцінка душы і сэрца.

**Людміла ПОПКА**

## Не толькі для падлеткаў

Хуткім часам у Выдавецкім доме «Звязда» стане на адзін часопіс больш. Да «Полымя», «Нёмана», «Маладосці» і «Вожыка» далучыцца «Бярозка», якая зноў пачне выходзіць пад асобнай вокладкай.

Гэта будзе каляровы, са шматлікімі малюнкамі і фотаздымкамі часопіс, у першую чаргу, прызначаны для падлеткаў. Але галоўным у ім стане, вядома ж, змест… І калектыў «Бярозкі» робіць усё, каб ён быў разнастайным і цікавым для чытачоў. Прычым не толькі для саміх падлеткаў, але і для іх бацькоў. А яшчэ — настаўнікаў, у першую чаргу класных кіраўнікоў і выкладчыкаў роднай мовы і літаратуры.

Па-ранейшаму ў адноўленай «Бярозцы» будуць друкавацца як мастацкія, так і публіцыстычныя творы юных аўтараў, даючы ім пуцёўку ў дарослае літаратурнае жыццё. Але і творы вядомых беларускіх пісьменнікаў чытачы таксама пабачаць на старонках часопіса, у першую чаргу — для падлеткаў і пра падлеткаў.

Адноўленая «Бярозка» запросіць на свае старонкі цікавых суразмоўцаў і цэлыя творчыя калектывы, будзе рэгулярна пра культурныя і спартыўныя падзеі у краіне, пра кніжныя навінкі нашых выдавецтваў. На старонках «Бярозкі» будуць праводзіцца конкурсы (у тым ліку і літаратурныя). Плануецца пастаянная старонка гумару, рубрыка «Цікава ведаць»… Ды хіба ж усё пералічыш!

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

# Дэтэктыўная... Малпа

Ці ведаеце вы дзіўных істот, якія жывуць у восеньскім парку і шукаюць Краіну вечнай цеплыні? Калі не, знаёмцеся — Брык і Шуся, героі дзіцячай кніжкі, якая нарэшце атрымала цікавы працяг. Творчая сустрэча з аўтарам новых прыгод неразлучных сяброў Таццянай Сівец і ілюстратарам выдання Аксанай Аракчэевай адбылася 12 снежня ў мінскім «Кніжным салоне».

Брык і Шуся зноў трапляюць у ланцужок вясёлых і незвычайных здарэнняў, але гэтым разам у іншай кнізе, якая называецца «Куды прапала малпа Маня?». І сапраўды, каб вырашыць нялёгкае пытанне, сябры павінны адкрыць уласнае дэтэктыўнае агенцтва — амаль як у Шэрлака Холмса, калі б ён быў маленькім і смелым фантазёрам.

— Тры гады таму, пасля з'яўлення першага выдання, дзе Брык і Шуся шукаюць лета, чытачы пыталіся ў мяне: што ж будзе далей? Я падумала: куды б яшчэ дзеці захацелі пайсці? І адправіла маіх герояў у заапарк, — распавяла Таццяна Сівец.

Брык і Шуся сапраўды апынуліся сярод звяроў, але не проста так, а з дабрачыннай місіяй: знайсці прыгажуню Майну Гусараўну, альбо проста малпу Маню. Гісторыя пачынаецца, калі да Брыка і Шусі прыходзіць незвычайны госць і прапануе правесці сапраўднае расследаванне: «Я не сурок, не хамяк і не вавёрка! Ясна? Я — чарнахвосты лугавы сабачка». Што адбылося ў выніку, лепей даведацца самастойна. Дарэчы, кожная старонка аздоблена сонечнымі, жывымі малюнкамі, дзе кожную хвіліну нешта адбываецца. Стваральніца цуду — мастачка Аксана Аракчэева — прадставіла падчас імпрэзы сваю выстаўку — «Вецер падарожжаў».

«Ілюстрацыі да кніжкі я малявала ў розных краінах — Чэхіі, Літве, Беларусі. Нават у самалёце! На жаль, часу было няшмат. Затое можна казаць, што выданне — міжнародны праект», — пажартавала Аксана Аракчэева.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Сталасць «Юнацтва»

Адсвяткавала 50-гадовы юбілей Студыя выяўленчага мастацтва пры Палацы творчасці дзяцей і моладзі «Юнацтва» г. Гомеля. Заснаваў і кіруе студыяй Валянцін Пакаташкін — заслужаны настаўнік Беларусі, сябра Беларускага саюза мастакоў, які за гэты час выхаваў не адно пакаленне творчай моладзі. Многія выпускнікі студыі абралі дзейнасць, звязаную з выяўленчым мастацтвам. Многія з іх сталі членамі беларускіх саюзаў мастакоў, архітэктараў, керамістаў, дызайнераў. Сярод самых таленавітых Валянцін Пятровіч называе Уладзіміра Талочку, Тамару Васюк, Пятра Фея, Святлану Курашову, Сяргея Ігнаценку і інш.

Заняткі ў студыі выяўленчага мастацтва даюць магчымасць дзецям і моладзі развіваць неабходныя навыкі для далейшага навучання ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. Штогод лепшыя работы ўдзельнічаюць у выстаўках, як у Беларусі, так і ў краінах замежжа. Конкурсныя малюнкі экспануюцца на пяці кантынентах, адзначаюцца высокімі ўзнагародамі журы і аргкамітэтаў. Нездарма студыі яшчэ ў 1980 годзе надалі званне народнай.

Да канца снежня ў палацы «Юнацтва» будзе праходзіць выстаўка твораў В. Пакаташкіна і вядомых выпускнікоў студыі.

**Ганна НОВІК**

*Водгалас*

# Паяднаны з Магілёвам

Міжнародныя Сіманаўскія чытанні — культурная традыцыя Магілёўшчыны. Упершыню адбыліся ў 1980-м, праз год пасля смерці знакамітага пісьменніка Канстанціна Сіманава. Затым праходзілі яшчэ двойчы. Да 2005-га быў перапынак. А потым грамадскасць Магілёва і вобласці аднавіла чытанні і зрабіла іх штогадовымі.

Сёлетнія Сіманаўскія чытанні праходзілі пад дэвізам «Сіманаў і Магілёў: два лёсы адзіныя» і былі звязаны з падзеямі пад Магілёвам на Буйніцкім полі на пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Заключныя мерапрыемствы Сіманаўскіх чытанняў прымяркоўваюцца да дня нараджэння пісьменніка — 28 лістапада. Напярэдадні Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае гарадское аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства» правялі Міжнародны літаратурны конкурс на лепшыя творы паэзіі і малой прозы на патрыятычную тэматыку. У конкурсе ўзялі ўдзел амаль 170 творцаў. Абсалютная большасць з іх — моладзь ва ўзросце да 35 год. Пераможцамі сталі 24 аўтары. Сярод іх — грамадзяне Расійскай Федэрацыі: паэтэса Вера Суханава са Смаленска, якая разам з іншымі расійскімі літаратарамі прыехала ў Магілёў, празаік Яўгеній Гусеў з Яраслаўля, паэтэса Валянціна Чырок з Бранскай вобласці. Пераможцы ўзнагароджаныя дыпламамі і кнігамі.

У Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Аркадзя Куляшова адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Абарона Магілёва ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў гістарычных фактах і дакументах і на старонках трылогіі К. М. Сіманава “Жывыя і мёртвыя”». Да магілёўскіх чытачоў, як заўжды, завіталі пісьменнікі з розных куткоў Беларусі, якія наведалі шэраг бібліятэк і навучальных устаноў Магілёва.

**Уладзімір ДУКТАЎ**

**Чакаем!**

20 снежня у 14.30 у бібліятэцы імя Талстога (вул. Маскоўская, каля Дома быту) адбудзецца прэзентацыя кнігі «Адвечныя скарбы Радзімы», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», з удзелам аўтара У. Мазго і мастака І. Гардзіёнка. Будзе экспанавацца выстаўка ілюстрацый да выдання.

**Уладзімір МАЗГО**



# З «Мінскага альбома»

## Ля Ратушы

*Да мінскай Ратушы іду —*
*І сэрца б’ецца гулка-гулка,*
*Нібыта птушка на ляту*
*Па-над адноўленым прытулкам.*

*На сцены светлыя гляджу —*
*Раптоўнай радасці гаранты,*
*Дзе кроплі звонкія дажджу*
*Гучней спяваюць,*
*чым куранты.*

*І прачынаюцца вякі,*
*Што ўдзячнай памяццю сагрэты.*
*І завіхаюцца шпакі*
*Ля часам спыненай карэты.*

## У Лошыцкім парку

*Мінулага часу заложніца,*
*Зялёна-блакітная Лошыца*

*У нетрах стагоддзяў галёкае,*
*Каб зноўку наблізіць далёкае,*
*Дзе травы праменяцца росныя,*
*Дзе людзі ўсміхаюцца босыя*

*Усе — і святыя, і грэшныя, —*
*Адчуўшы зямлю пад падэшвамі.*

## Каля помніка Янку Купалу

*Дзядзька Янка!*
*Народны пясняр,*
*Нашых шчырых памкненняў выказнік,*
*Ці збыліся ўсе лепшыя з мар?*
*Адкажы нам,*
*прарок наш і класік.*

*А Купала задумна маўчыць,*
*Нібы сонца над ліпеньскім паркам.*
*Толькі музыка вершаў гучыць,*
*Што чытаем натхнёна і шпарка.*

*Як нялёгка спрадвеку ісці*
*Да вытокаў,*
*каб роднае слухаць,*
*Калі вецер шапоча ў лісці*
*Альбо ў небе гудзе завіруха.*

*Але дойдзем —*
*між вёсен і зім —*
*Да здзяйснення ўсіх мар запаветных,*
*Дзе ніколі не знікне зусім*
*Наша мова між іншых —*
*сусветных.*

*І прамовім тады песняру —*
*На свой лад! —*
*пад вятрамі,*
*грымотамі:*
*«Занімае мая Беларусь*
*Свой пачэсны пасад між народамі».*

## На беразе Свіслачы

*Блукаю на беразе Свіслачы,*
*Шукаю юнацтва сляды,*
*Якія так хочацца вызначыць*
*У сховах лістоў*
*залатых.*

*Няма інтэрната на Паркавай,*
*Ды й Паркавай болей няма,*
*Нібыта пад зорнаю аркаю*
*Засыпала снегам зіма.*

*Так важна часінай халоднаю*
*Мінулым цяплом даражыць,*
*Бо сэрца,*
*як дрэўца самотнае,*
*Што скінула лісце,*
*дрыжыць.*

## На Мінскім моры

*На Мінскім моры*
*Вятры ў гуморы:*
*Спяваюць хвалі,*
*Танцуюць зоры.*

*На Мінскім моры*
*На шпацыр ходзім —*
*Далей ад зморы —*
*На цеплаходзе.*

*Улоў спаткае*
*На дзіва важкі,*
*Што не хапае*
*Адно цяльняшкі.*

*Знікае спёка.*
*І не загана,*
*Што так далёка*
*Да акіяна.*

*На Мінскім моры*
*Вятры ў гуморы:*
*Спяваюць хвалі,*
*Танцуюць зоры...*

## Ансамбль «Сябры»

*Калі часінай хмурнаю*
*Зажурымся ў паходзе,*
*Ярмоленка з Сацураю*
*Настрой нам распагодзяць.*

*Пра родны кут*
*і дачнікаў*
*Спяваюць сакавіта,*
*Пра тое,*
*што не страчана*
*І намі не забыта.*

*І, на фальклор галодная,*
*Сталіца спасцігае:*
*Да скону*
*песня родная*
*Любіць дапамагае.*

## Ансамбль «Чараўніцы»

*Там, дзе далі*
*спакушаюць таямніцамі,*
*Дзе стагоддзі,*
*нібы воблакі, ляцяць,*
*Мы прачнуліся аднойчы*
*чараўніцамі,*
*Каб усіх сваёй красой*
*зачараваць.*

*Зоркі з неба*
*ў рукі просяцца чарніцамі,*
*Так і хочацца*
*на досвітку сарваць.*
*Калі людзі нас назвалі чараўніцамі,*
*Мы не маем права*
*іх расчараваць.*

*Дзе лунаюць галубы*
*над камяніцамі,*
*Дзе пагляды закаханыя гараць,*
*Мы ідзём па родным краі*
*чараўніцамі,*
*Каб сваёю песняй*
*вас зачараваць:*

*«Прыгажуні-чараўніцы,*
*Вусны —*
*спелыя суніцы,*
*Вочы —*
*сінія азёры,*
*Як малююць фантазёры.*

*Прыгажуні-чараўніцы,*
*Калі ў вёсцы ці ў сталіцы*
*Нашы песні падаруем —*
*Заваротым, зачаруем».*

**Валерый ГРЫШКАВЕЦ**



У сваім родным Пінску паэт і празаік, сябра двух пісьменніцкіх саюзаў — Беларусі і Расіі — Валерый Грышкавец мае заслужанае прызнанне і павагу. Па-першае, тут ён і нарадзіўся 23 снежня 1953 года ў сям’і рабочага, па-другое, старажытнаму гораду над Пінай яшчэ ў маладыя гады творца прысвяціў многія краязнаўчыя матэрыялы, у тым ліку цудоўныя нарысы «Мой горад», «Пінскі літаратурны пантэон», «Пахаванне «балахоўца» дзеда Рыгора», нават склаў і надрукаваў летапіс колішніх пінскіх князёў. Але, зразумела, не толькі ў Пінску і не толькі на Берасцейшчыне Валерыя Грышкаўца ведаюць як вобразнага, метафарычнага паэта-лірыка. Невыпадкова ў Маскве, калі вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах, а потым і працаваў у «белакаменнай», яго паэзію палюбіў і рэкамендаваў аўтара ў Саюз пісьменнікаў Расіі сам Юрый Кузняцоў.

Там жа, у Маскве, друкуючы свае творы ў аўтарытэтных літаратурных газетах і часопісах, Валерый Грышкавец пачаў перакладаць з беларускай мовы, і толькі дзякуючы яго высокакваліфікаваным перакладам сярод расійскіх пісьменнікаў шырока сталі вядомыя імёны Міхася Рудкоўскага, Міколы Купрэева, Анатоля Сыса і многіх іншых. Да слова сказаць, наш сённяшні юбіляр выдаваўся няшмат. Галоўныя яго кнігі — «Время отправления», «Круг аистиный», «Белые мосты», «Я из тех…». Канечне, на колькасць напісанага паўплывала «рабочая» біяграфія, якую ён пачаў з падлеткавага ўзросту, а потым абышоў і аб’ездзіў ледзь не ўвесь былы Саюз — ад Крыма да Сібіры. Затое калі вярнуўся з Масквы, то, як ніхто іншы, мог пахваліцца амаль паўтузінам аўтарытэтных літаратурных прэмій — скажам, імя А. Платонава, «Залатое пяро Расіі», прэміяй часопіса «Масква».

І дома пісьменніка не забылі. Валерый Грышкавец — лаўрэат прэмій «Залаты Купідон», часопісаў «Нёман», «Беларуская думка» і іншых. Але, бадай, самая дарагая для паэта-перакладчыка літаратурная прэмія імя Уладзіміра Калесніка — за анталогію перакладаў паэтаў Берасцейшчыны, якая пад назвай «Белой вежи свет» выйшла тры гады таму ў РВУ «Літаратура і мастацтва». Цяпер Валерый Фёдаравіч Грышкавец жыве ў родным Пінску, працуе ўласным карэспандэнтам брэсцкай абласной газеты «Заря» і, адзначаючы 60-гадовы юбілей, заслужана прымае віншаванні землякоў і прыхільнікаў свайго арыгінальнага таленту.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога**
**аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# У садах над Пінай

## Сталасць

*Сваім не журыся*
*дзяцінствам.*
*Так, скончана лета ўсур’ёз.*
*Разбітым асенніх*
*гасцінцам*
*Рыпіць журавліны абоз.*

*І студзяць вятры абліваху…*
*Не веру. І што значыць —*
*«жджы»?*
*Заснеш ці прачнешся —*
*па даху*
*Шапочуць,*
*як мышы,*
*дажджы.*

*Антонаўкай, бэрамі, кропам*
*У хаце прапахлі куты.*
*І жмурыцца —*
*нібы з папрокам? —*
*Мікола-угоднік святы.*

*Дык прымем як дар,*
*як маленне*
*Усё, што хвалюе да слёз.*
*Над садам,*
*яшчэ ад Успення,*
*Рыпіць журавліны абоз.*

***

*Восень. Да першага снегу.*
*Прыгарад. Поўнач. Туман.*
*Снежань ці ляжа з набегу?*
*Мілы прыроды падман.*

*Водар антонаўскіх яблык —*
*Стынь растае на губах.*
*З ягад рабіны азяблых*
*Дзівіцца ў прыцемку птах.*

*Светлай парой чарадзейнай*
*Жыць да апошняй мяжы!*
*Сталасць. Яшчэ не завейна.*
*Першых сустрэч міражы.*

*Выбеглі разам з-пад поўні.*
*Сад незнаёмы. І — смех.*
*Шэрыя ў кронах шпакоўні,*
*З голля цярушыцца снег.*

*Снег. Самы першы. Асенні.*
*Як пацалунак цішком.*
*Нашы дрыготкія цені*
*З цёплым зліліся ствалом.*

*З Піны наплыў, з узбярэгу,*
*Памяці ліпкі туман.*
*Восень. І — з’явішча снегу.*
*Мілы, ды ўсё-ткі падман.*

## Зімовая казка

*Сон не сон — насланне ці надзея?*
*Твар жаночы, дзе прапаў дакор.*
*«Дзень які хоць сёння?» —*
*«Ды нядзеля!»*
*Бразнуў клямкай —*
*выскачыў на двор.*

*Свет звінеў, дыміўся свет марозам,*
*Завіваўся кольцамі бульвар.*
*Зіхацела ў ім, свяцілася бяроза:*
*Вабіў той, прыснёны, мілы твар.*

*І пайшоў, пабег — не азірнуўся.*
*След цягнуўся ў поле, паўз дамы.*
*Што было там?.. Па вясне вярнуўся.*
*Зачыніўся ў хаце — да зімы.*

***

*Ля дарог, паўз шляхі-пуцявіны*
*Скрозь дурнічнік, бур’ян ды быльнёг.*
*А хацеў жа — каліны-маліны,*
*Бачна, лёс не той шлях пералёг.*

*Я і сам пачарнеў — не прыкмеціў,*
*Што абвуглена сэрца — датла!*
*Гоняць попел пазёмка і вецер,*
*Дзе каліна мая не цвіла.*

*Засмяюся!.. Хаця не да смеху.*
*Жыў не так, ды не гол, як сакол.*
*Грэю ў полі завейным пацеху:*
*Будзе добрым за мною падзол.*

***

*Па снезе, па саннаму следу,*
*На покліч гадоў чарады,*
*Світанкам пайду ці паеду —*
*Свае не пакіну сляды.*

*На рэха ўчарашняй самоты,*
*Што надта ўжо страчана сіл,*
*У далеч, праз боль і сумёты,*
*Дзе ўмёрзла зара ў небасхіл.*

*Дзе ранак бяссмерце разгушкаў,*
*І там нерасталы ўжо снег,*
*І белая-белая птушка*
*Нясе белым-белы каўчэг.*

*Да той запаветнай вяршыні,*
*Што свету дарыла святло,*
*І толькі дарогу пакіне,*
*Дзе ў муках юнацтва ішло.*

***

*Адчуць, прыняць і палюбіць,*
*Сябе ў самім адкрыць нанова.*
*І жыць далей. Ды толькі — жыць,*
*Каб слову — толк, і толк — ад слова.*

*Дзяцей карміць, і сад садзіць,*
*І падаць часам, памыляцца…*
*Ды проста жыць. Ды толькі — жыць,*
*Ад болю плакаць і смяяцца.*

*А заўтра дзень, як свет, адкрыць,*
*Убачыць сонца над разлогам.*
*І зноўку жыць. Ды толькі — жыць,*
*З душой раскаянай над Богам.*

**Пераклад з рускай**
**Віктара ГАРДЗЕЯ**



Літаратурная грамадскасць Магілёўшчыны, калегі па творчай працы рыхтуюцца адзначыць 60-гадовы юбілей вядомага празаіка, добрага настаўніка і дарадцы маладых Уладзіміра Дуктава. Нарадзіўся пісьменнік 28 снежня 1953 года ў горадзе Крычаве, скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў карэспандэнтам Клімавіцкай раённай газеты «Новае жыццё», а таксама рэдактарам Магілёўскай раённай газеты. Цяпер — старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар кніг прозы «Дзякуй і даруй» (1993), «Трэцяя асоба» (1997), «Смешкі-пацешкі» (1998), «Кніжнік» (2005) ды іншых.

# Уладзімір ДУКТАЎ

## *Кароткія апавяданні*

### ПРЫГОДА

Ліпеньскім ранкам паволі ступаю па ўтравелым беразе Сожа. Іду насустрач імклівай рачной плыні. Час ад часу спыняюся. Пападваўшы на блешню, размахваюся спінінгам і закідваю прынаду аж на сярэдзіну ракі, спрытна накручваю лёску на бабіну. Рыбацкае шчасце пакуль што мне не ўсміхаецца...

На крутым завароце Сожа раблю кароткі прыпынак, каб выкурыць цыгарэту. Вецер даносіць здалёк рокат лодачнага матора. Мясцовасць вакол адкрытая — ані дрэўца, ані кусціка табе. І вось праз колькі хвілін бачу лёгкую дзюралевую лодку, што імчыць уніз па рацэ. Прыгожы яе палёт зачароўвае, і я схамянаюся толькі тады, калі адлегласць між намі застаецца не больш як пару дзясяткаў метраў. На карме маторкі сядзіць мужчына і, здаецца, прыветна ўсміхаецца. Напэўна, надта спрактыкаваны, калі спадзяецца на вялікай хуткасці ўдачна зрабіць паварот. А можа, задумаўся і забыў пра манеўр?!

Інстынктыўна ўзнімаю абедзве рукі, сутаргава махаю ў паветры. З грудзей вырываецца дарэмны крык, які лодачнік не здолее пачуць.

І тут маторка рэзка завальваецца на левы бок. Пранізліва вые рухавік. Нібыта вялізная рыбіна, лодка мільганула ў паветры белым днішчам. Ад жаху заплюшчваю вочы, з ног да галавы мяне абдае рачною вадой. Раптам робіцца надзвычай ціха. Расплюшчваю вочы: пасудзіна ляжыць дагары днішчам каля самага берага.

Не вагаючыся, кідаюся ў рэчку, па пояс у вадзе брыду наперад, хапаюся за борт лодкі, спрабую падняць — дзе там! Лёгкая яна толькі на першы погляд, не адна пара дужых рук трэба, каб даць рады. Падныраю пад пасудзіну — лодачніка там не знаходжу. Выныраю з процілеглага боку і нос да носа сутыкаюся з мужчынам, які нешта сіліцца сказаць.

— Перак-куліўся, — нарэшце выціскае ён.

— Але, — пагаджаюся. — Ты што, берага не бачыў? — злуюся на яго.

— Трохі закімарыў, — тлумачыць.

— Тваё шчасце, што я тут апынуўся.

— Ага, — пагаджаецца.

Удвух цягнем маторку на бераг. Лодачнік уздыхае, цяжка сапе, напаўняючы паветра перагарам.

### ВІЗІТ ТЭЛЕМАЙСТРА

Малады супрацоўнік тэлевізійнай майстэрні Кастусь Маўчун падняўся на трэці паверх жылога дома, пазваніў у кватэру. Дзверы адчынілі адразу: гаспадыня, бабулька ў плашчы і хустцы, павіталася першая, запрасіла ўвайсці. Госць пашараваў падэшвамі чаравікаў па дыванку, на якім стаяў, зайшоў у прыхожую. Яна падалася надта прасторнай з паркетнай падлогай.

— А я прачакалася ўжо, — прамовіла бабулька, — сабралася ля пад'езда пільнаваць вас.

— Навошта?.. — усміхнуўся тэлемайстар. — Мы вам час прызначылі дакладны. — Паглядзеў на свой наручны гадзіннік. — Зараз роўна дванаццаць, хвіліна ў хвіліну прыйшоў да вас.

— Дык я троху недачуваю, — пачала апраўдвацца старая. — Падумала, лепей сустрэць...

Маўчун згледзеў пры ўваходзе табурэт. На ім, пэўна, гаспадыня сядзела ў прыхожай, чакаючы тэлемайстра. Кажа, дрэнна чуе, таму не спадзявалася на дзвярны званок.

— Дзе ж тэлевізар? — гучна спытаў у бабулькі.

— Ды ў зале, — схамянулася яна. — Праходзьце, праходзьце за мной.

Гаспадыня скіравалася да аднаго з пакояў, а іх жа ў кватэры, мяркуючы па дзвярах, было чатыры.

— Дзеці паехалі дачу купляць, сёння субота, выхадны... а ўнукі ў школе... — тлумачыла старая. — Мы ў гэтым горадзе нядаўна пасяліліся.

Кастусь уладкаваў на крэсле ў зале свой дыпламат з інструментамі і запчасткамі, агледзеўся. Пакой разы ў тры большы за звычайную залу, ну, як, да прыкладу, у Кастусёвай двухпакаёўцы. Кватэра яўна належала немалому начальніку: дом жа ў прэстыжным месцы абласнога цэнтра.

Мэбля таксама шыкоўная, імпартная, адно тэлевізар айчыннай вытворчасці — каляровы «Гарызонт», — праўда, апошняга выпуску і новы зусім.

Майстар заняўся рамонтам, бабулька ўладкавалася ў куце на крэсле, цікавала за госцем. У маўчанні прайшло хвілін пятнаццаць. Раптам у кватэры прагучаў званок. «Дзвярны», — пазнаў Кастусь і паглядзеў на бабульку — тая ж вухам не вядзе. Сапраўды, глухаватая.

— Прыйшоў нехта, — сказаў да бабулькі тэлемайстар і паказаў рукой з паяльнікам на прыхожую.

Бабулька зразумела, удзячна захітала галавой. Узнялася з цяжкасцю на ногі, пасунулася адчыняць дзверы.

— Дарэмна з'ездзілі, — пачуўся неўзабаве незадаволены жаночы голас. — Дача каля шашы... Мне гэта не даспадобы...

— І ў непагадзь дабрацца можна, — падаў голас нябачны мужчына.

— З каханкай?

— Ліна, не заводзься, — папрасіў мужчына.

— На злодзеі шапка гарыць. У раёне я маўчала пра твае прыгоды, а тут не дачакаешся. Вобласці з мяне хопіць, у Мінск жа з такім, як ты, таўкачом усё роўна не паклічуць. Калі б я не пасвіла цябе ўвесь час, дык так бы і сядзелі па сёння ў тым чарнобыльскім раёне.

— Скажы ўжо праўду: больш дагаджала розным правяраючым. Пакункі, падарункі совала на дарогу. Увесь райспажыўсаюз развалаклі.

— А ты мяне зславіў?

— Я не міліцыя, каб лавіць. А мог жа падказаць, бо і міліцыя раённая была ў нас пад наглядам. Следчы пракуратуры шмат чаго можа...

— Пасаромеўся б пры маці такое казаць, прорва ты няўдзячная, — ледзь не заплакала жанчына.

— Цешча не пачуе, слых не той. Так, мама? — запытаўся ў старой, узмацніўшы голас.

— Так, так, прыйшоў, — адказала бабулька.

— Хто прыйшоў? — не зразумеў зяць.

— Дык тэлемайстра ж выклікалі, ён і прыйшоў.

— Чаго ж вы раней не сказалі? — узвілася дачка.

— Дык вы слова не даяце мне ўставіць, з парога сварыцца адзін з адным пачынаеце, — агрызнулася маці.

На той момант Маўчун закончыў рамонт, склаў свае рэчы ў дыпламат і выйшаў у прыхожую. Святла гаспадары не запальвалі, і Кастусь нават не разгледзеў іхніх твараў. Зазначыў толькі, што муж з жонкай былі аднаго ўзросту, гадоў пад сорак.

— Трэба разлічыцца, — замітусілася жанчына.

— Дык жа рамонт гарантыйны, плаціць не трэба, — спыніў яе муж.

— Так, адрыўны талон з «Кіраўніцтва па эксплуатацыі» я забраў,— падаў голас тэлемайстар, — а лішняга мне не трэба.

— Паверым на слова, не абшукваць жа мне вас... — прамовіла жанчына і кінула погляд-маланку на маці, якой было загадана не зводзіць з тэлемайстра вачэй. І ўладна да мужа: — Васіль, паглядзі хлопцаў дыпламат, што там у ім...

...Праз колькі хвілін Кастусь апынуўся на вуліцы, з палёгкай удыхнуў халаднаватае восеньскае паветра.

### ДЫНАСТЫЯ ПАЛЯЎНІЧЫХ

Цераха Крывуна і ягонага сынападлетка Віцьку ў вёсцы ведаюць як заўзятых паляўнічых.

Дзядзька Церах працуе на жывёлагадоўчай ферме за вартаўніка. Таму нярэдка мае час для свайго любімага занятку. Паляўнічы ён адмысловы, ведае навакольныя лясы і палі як свае пяць пальцаў. Падняць дзічыну для яго простая справа. Толькі вось стрэліць са сваёй дубальтоўкі не заўсёды можа трапна: мужчына кульгае на правую нагу, і правая рука яго дрэнна слухаецца. Таму звычайна трымае ружжо на ўзводзе. А калі спатыкнецца, дык выпадкова і стрэл можа бухнуць. Пакуль перазараджае стрэльбу — дзічыну толькі і бачылі... У гэтых выпадках шанцуе сыну Віцьку: ён трапны стралок (у школьным гуртку лічыцца адным з лепшых), са сваёй старэнькай аднастволкі не прамажа, галоўнае, каб зброя асечкі не дала...

Пра Церахава калецтва ў вёсцы ведаюць і старыя, і малыя. Тры гады таму дзядзька на ўзлеску прыкмеціў вышэзную ліпу з вавёрчыным дуплом. Ускараскаўся на дрэва, запусціў правую руку ў хованку звярка, каб разжыцца яго прыпасамі. Ды дупло аказалася пчаліным. Вядома, пчолы ўмомант пакусалі дзядзькаву руку так моцна, што яна адразу распухла і аніяк не вылазіла з дупла. Як на грэх, сук, на якім стаяў мужчына, адламаўся, і дзядзька павіс на ўласнай руцэ ў паветры. Пачаў крычаць, клікаць на падмогу. Хлапчукі, якія гулялі непадалёк, пачулі лямант і пабеглі ў вёску. Мужчыны хутка прымчаліся на ўзлесак, але не адразу далі рады, як тут быць. Нарэшце прывязалі Цераха да дрэва вяроўкамі, пачалі пілаваць ліпу, каб зменшыць удар аб зямлю. Спіленае дрэва падтрымлівалі жэрдкамі некалькі чалавек. Але ўсё роўна на бядан няслаба грымнуўся, як падаў разам з ліпай. Церах больш як два месяцы адбыў у раённай бальніцы, але выпісаўся ўжо з паралізаваным правым бокам тулава. Патроху сталі рухацца рука і нага, ды ўжо на трактар у калгас Церах не здатны быў вярнуцца, так і прыжыўся вартаўніком на ферме.

Мінулай зімой на паляванні са старэйшым і малодшым Крывунамі здарыўся недарэчны выпадак. Паднялі яны зайца. Церах не паспеў стрэліць, а ягоны Віцька трапіў-такі ў дзічыну. Сабраліся іншыя паляўнічыя ля ўдачлівых Крывуноў, слухаюць Віцькаў аповед.

— Цэлюся я ў зайца, — расказвае падлетак, — націскаю на спуск, але ружжо дае асечку. Цэлюся зноў — другая асечка. Заяц ужо далёка, я трэці раз прыцэльваюся... — хлопец увесь час трымае аднастволку перад сабой і, дэманструючы свае дзеянні на паляванні, у каторы раз націскае на спускавы кручок. Гучыць аглушальны стрэл. Усе аслупянелі. Церах Крывун, які стаяў за некалькі крокаў насупраць сына, збялеў, як снег. Шротам яму пасекла паліто, але, на шчасце, не параніла.

У насмерць перalяканага Віцькі на пару хвілін адняло мову. Нарэшце хлопец нейкім не сваім голасам прамовіў:

— Я і не памятаю, як у гарачцы пасля стрэлу па зайцу перазарадзіў ружжо.

### НЯЗНАЧНЫ ЎРОН

Крадзяжы з дач даліся ў знакі многім уласнікам. Не абмінула тая непрыемнасць і мяне. Давялося ўпершыню звяртацца па дапамогу ў міліцыю.

У вызначаны час мы з жонкай прыехалі на дачу, але прадстаўніка аддзела міліцыі там не дачакаліся. Тады назаўтра ўранні самі на ўласнай легкавушцы з'ездзілі ў раённы аддзел унутраных спраў і «ўзялі ў палон» супрацоўніка крымінальнага вышуку, які прыхапіў з сабой участковага міліцыянера.

І вось, дадаўшы да лічбаў спідометра паўсотні «кэмэ», мы зноў у нас на дачы.

— Дык што ў вас скралі злодзеі? — пытаецца міліцыянер, складаючы пратакол.

— Газавы балон, тэлевізар «Віцязь», яшчэ не стары, усяго пяць год адпрацаваў, вось і тэхпашпарт, — адказваю я.

— Паўтара дзясятка трохлітровых слоікаў кансерваванай агародніны і садавіны забралі!.. — дадае мая кабета і зыркае на мяне, маўляў, казала табе шчэ тыдзень таму, калі пагода стаяла, з'ездзіць ды забраць усё з дачы.

— А дзе вы працуеце? — пацікавіўся міліцыянер.

— Я — начальнікам цэха на заводзе, а жонка — бухгалтарам у райана, — адказваю.

— Значыць, людзі вы нябедныя, вунь і іншамарку маеце, — зрабіў выснову прадстаўнік улады. — Ці варта так нервавацца з-за нейкіх дробязей? Так што запішам у пратакол: урон нязначны. Згодны?

Мы з жонкай адно паціснулі плячамі.

— Тады распішыцеся, — прапанаваў міліцыянер, палічыўшы наша маўчанне за згоду.

Мы паставілі подпісы.

— А цяпер зробім апытанне суседзяў, — паабяцаў супрацоўнік крымінальнага вышуку.

Я вывеў міліцыянераў на вуліцу, хацеў быў ісці разам, але мне прапанавалі вярнуцца ў дом.

— Вам не варта нажываць лішніх ворагаў, — патлумачылі мне. — Мы яшчэ сустрэнемся.

Міліцыянеры рушылі ў двор дачнага доміка, над комінам якога ўздымаўся дымок. Я супакоіўся: усё правільна, мы з жонкай казалі ім пра тое, што на гэтай дачы, якую купілі нядаўна ў пенсіянера-ўдаўца незнаёмыя людзі, гаспадары жывуць пастаянна, нібыта ў іх гарадской кватэры няма.

У дом мне не хацелася ісці, каб не міць размовы з жонкай, і я памкнуўся да лазні ў куток зямельнага ўчастка. Узяў у прадлазніку сякеру, некалькі драўляных цурак і пры ўваходзе ў лазню стаў секчы іх на калодзе. Між іншым назіраў і за міліцыянерамі. Яны падышлі да веснічак дачы, з коміна якой віўся дымок, спыніліся, прыпалілі цыгарэты ад запальнічак. З паўгадзіны яны так пастаялі, пакурылі і, павярнуўшыся, рушылі зноў у кірунку нашай дачы, што была метраў за сто. Я хуценька памкнуўся ў дом.

Нам з жонкай прадстаўнікі ўлады паведамілі, нібыта на той дачы, суседняй, ім ніхто не адчыніў, а чакаць ім няма часу, трэба вяртацца тэрмінова ў райаддзел.

Я нічога ім не сказаў пра тое, што бачыў, як яны «схадзілі» да суседзяў, ні адразу, ні тады, калі вёз іх у горад.

# «Літаратура і на хутары літаратура», альбо Пісьменнікі ў рэгіёнах

Умоўна званая «літаратура рэгіёнаў» прыемна здзіўляе беларускага чытача. Алёна Беланожка, што жыве ў Магілёве, стала адным з пераможцаў беларуска-расійскага конкурсу «Мост дружбы». Алена Брава з Барысава бярэ замежныя прэміі і з'яўляецца цяпер адным з самых чытаемых аўтараў у Беларусі. Шырокавядомая кніга Сяргея Балаханова «Зямля пад крыламі Фенікса» — жыве аўтар у Гомелі. Не менш папулярны Валерый Гапееў (Івацэвічы).
Дык што гэта? Заканамернасць (далей ад сталіцы — болей часу на творчасць) ці выпадковасць? І як уплывае, калі ўвогуле ўплывае, жыццё ў рэгіёне на творчасць пісьменніка?
Каб адказаць на пытанні, мы сабралі за «круглым сталом» людзей, што ўзначальваюць абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі: Уладзімір Гаўрыловіч з Гомеля, Тамара Краснова-Гусачэнка з Віцебска, Людміла Кебіч з Гродна, Магілёў прадстаўляе Уладзімір Дуктаў, Анатоль Крэйдзіч — Брэст, а за сталічнае аддзяленне прамаўляе Міхась Пазнякоў.
Натуральна, вышэйзгаданымі пытаннямі гутарка не абмяжавалася.

**— І ўсё ж: аддаленасць ад культурнага і, у прыватнасці, літаратурнага цэнтра ўплывае на творчасць пісьменнікаў?**



**У. Гаўрыловіч.** Скажам прама: нясумна таму, хто напісаў якасны твор, — разрываюць на кавалкі. Хіба можа паскардзіцца Васіль Ткачоў на няўвагу чытачоў? Ён ужо адмаўляецца ад сустрэч, бо няма калі і пісаць. Так, патрэбны моцныя творы, якія прымуць у выдавецтвы адразу ж, і чытач сам знойдзе аўтара, захоча патрапіць на сустрэчу з ім, запатрабуе працяг. Сам! Скажаце, ідэаліст Гаўрыловіч? Ну правільна, не кожны літаратар можа пахваліцца такой увагай. Бо і СМІ іх не папулярызуюць. Радка не знойдзеш пра новую кнігу, хоць і Год кнігі прайшоў.

**А. Крэйдзіч.** Літаратура — яна і ёсць літаратура, ці на хутары яна створаная, ці ў сталіцы. Можна, канечне, аднесці да рэгіянальнай літаратуры кнігі мястэчковых напаўпісьменных краязнаўцаў ды іншага кшталту «сачыніцеляў» — але ж мы гаворым пра Літаратуру. Добра, што вядуць досыць патрабавальны адбор рукапісаў «Мастацкая літаратура» і «Выдавецкі дом «Звязда». Ведаю, як ім няпроста. Але ж колькі зроблена! Прыемна, што Валерый Гапееў, які жыве ў Івацэвічах, выдаў сёлета ўжо дзве кнігі, а іх ніяк рэгіянальнымі не назавеш. Затое шмат «мястэчковых пісак» у сталіцы. Натуральна, жыццё ў глыбінцы ўплывае на кругагляд пісьменніка. Але калі ён пісьменнік сусветнага ўзроўню, то і ў глыбінцы не згубіцца. А далей можна дэталізаваць да пасінення: а вось глыбінка не дае той духоўнай спажывы, як вялікі горад з яго тэатрамі, музеямі, стасункамі; а вось у глыбінцы тупеюць, співаюцца, звязваюцца з тымі, хто ім ніяк не адпавядае па ўзроўні інтэлекту… Але ў дэталях можна пагразнуць. Карацей, няма ніякай рэгіянальнай літаратуры. Патрэбны толькі прафесіяналы ў выдавецтвах, здольныя адрозніць сапраўднае ад несапраўднага, падтрымаць адоранага і адмесці графамана.

**Т. Краснова-Гусачэнка.** Не ведаю, як у іншых, а ў нас з сарака трох пісьменнікаў актыўна працуе толькі траціна аўтараў. І, на жаль, ёсць сярод нас такія «творчыя асобы», якія ў асноўным спецыялізуюцца не на мастацкіх творах, а на даносах, але яны надвор'я не робяць. Хіба толькі сябе паказваюць.

**— А што наконт прэмій? Ці з'яўляецца прэмія ў рэгіёне існай падтрымкай для пісьменніка, які вымушаны штодзень працаваць на кавалак хлеба?**

**Т. Краснова-Гусачэнка.** Летась стартавала штогадовая прэмія імя Петруся Броўкі, заснаваная Віцебскім аблвыканкамам. Да таго ж, нашы пісьменнікі становяцца лаўрэатамі міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў.

**У. Дуктаў.** У нас шмат прэмій, якія носяць імёны пісьменнікаў-землякоў: Чыгрынава, Пысіна, Пісьмянкова… Яшчэ праводзім конкурс памяці Пушкіна — пры падтрымцы Пасольства РФ.

**Л. Кебіч.** Сёлета дзесяць пісьменнікаў атрымалі матэрыяльную дапамогу ад Гродзенскага абласнога аддзялення, адзінаццаць — ад СПБ.



**М. Пазнякоў.** Часам мы чуем папрокі некаторых прадстаўнікоў абласных творчых арганізацый СПБ, што большасць літаратурных прэмій дастаецца мінчанам. Маўляў, крыўдзяць пісьменнікаў з перыферыі. Але ж і раней у сталіцы было больш адметных пісьменнікаў, чым у рэгіёнах. І я лічу, што пры вызначэнні лепшых твораў ні ў якім разе не павінен уплываць геаграфічны фактар.

**— Але на пытанне вы так і не адказалі: прэмія сапраўды матэрыяльна дапамагае пісьменнікам?**

**Л. Кебіч.** Ніяк. На Гродзеншчыне рэальна дапамагае толькі адна прэмія — ад аблвыканкама. Гэта абласная літаратурная прэмія рукапісаў — нават не кніг — імя Цёткі. Раз на два гады мы збіраем не выдадзеныя яшчэ творы, прычым браць удзел могуць усе, не толькі «саюзнікі». Прэмія празаіку — 15 мільёнаў, паэту і дзіцячаму аўтару — 14 мільёнаў. Аднак грошы гэтыя даюцца толькі на выданне кніг. Што да іншых… Узяць той жа «Купідон». Арганізатары са скуры вылузваюцца, каб знайсці спонсараў…

**— Што адметнага адбылося на вашых «творчых дзялянках» за 2013 год і якія планы абласныя аддзяленні маюць на год наступны?**



**У. Дуктаў.** На Магілёўшчыне штогод праходзяць літаратурныя чытанні; багата сустрэч, прэзентацый адбылося падчас абласнога свята паэзіі «Пісьмянкоў луг». Шмат выпусцілі новых кніжак (М. Барысенка, Я. Соцікаў, У. Парахневіч і інш.), паэтычных зборнікаў (В. Арцем'еў, Н. Кавалёва, М. Падабед і многія іншыя), сёмы нумар альманаха «Прыдняпроўе»... Мікалай Барысенка, дарэчы, стаў лаўрэатам прэміі першай ступені «Залаты Купідон» у намінацыі «Краязнаўчая літаратура», і цырымонія ўзнагароджання прайшла ў Быхаве.

**Т. Краснова-Гусачэнка.** Нас усяго сорак тры, а выдадзена за няпоўны 2013 год 52 кнігі. Калі ж улічыць, што зрабілі гэта дванаццаць актыўных пісьменнікаў… Самыя цікавыя з кніг — «Камяні гавораць» Антона Парасканевіна, літаратуразнаўчы двухтомнік Аркадзя Русецкага, «На сёмым небе» Міледзія Кукуця, «Нарысы па гісторыі Полацка» Андрэя Герашчанкі, серыя кніг «Аповеды Дзеда Прыродазнаўцы» Сяргея і Галіны Трафімавых і інш. Мы налічылі 510 выступленняў у СМІ і творчых сустрэч. Правялі два конкурсы: адзін — памяці Пушкіна, другі — традыцыйны велікодны, разам з Віцебскай епархіяй. Калі казаць пра будучыню… Разам з журналісткай Таццянай Кузьміч мы дапамаглі паэту Алесю Шпыркову, які пад канец жыцця цалкам аслеп і цяпер ужо не з намі, скласці зборнік «Сініцына поле». Рукапіс адпраўлены ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Вельмі спадзяёмся, што кніга выйдзе ў наступным годзе.

**У. Гаўрыловіч.** Мы правялі абласны конкурс чытальнікаў «Захаваем свет разам!», спрабуючы стымуляваць цікаўнасць да літаратуры з боку школьнікаў. І ведаеце, што? Удзел узялі 983 чалавекі! З маленькага свята фактычна перарасло ў вялікі міжнародны фестываль «Славянскія літаратурныя дажынкі», якія сёлета ладзіліся ў сёмы раз і цягнуліся чатыры дні. Яшчэ — заснаваная прэмія ў гонар Анатоля Грачанікава, якому сёлета споўнілася б 75. Тут варта задацца пытаннем: ці лёгка арганізоўваць такія фэсты і ці патрэбна? Цяжка. Нямала даводзіцца папацець арганізатарам, але трэба і такім чынам шукаць шлях да сэрца чытача. Пакуль дапамагае спонсарская падтрымка СПБ і ў асобных выпадках падстаўляе плячо мясцовая ўлада.

Сёлета мы, дарэчы, рэалізавалі патрабаванне Прэзідыума Саюза пааднаўленні перакладчыцкай школы. Кепска-добра атрымалася. Вельмі радуюць маладыя — з імі ў нас працуюць канкрэтныя людзі. У Гомелі, напрыклад, Ніна Шклярава і Іван Бісеў. Сямёра маладых прынятыя ў Саюз. Таксама мы выпусцілі восьмы нумар альманаха «Літаратурная Гомельшчына». Пад адной вокладкай змясціліся творы нашых аўтараў і пісьменнікаў з Курска, Трубчэўска, Глухава.



**Л. Кебіч.** Мы таксама надаём вялікую ўвагу працы з моладдзю. Пяць гадоў працуе школа маладых паэтаў пры Палацы дзіцячай творчасці, якой кіруе Фёдар Чычкан. Вынік гэтага навучальнага года — альманах «Пачуй мой голас на світанні». Зусім новы досвед — сумесныя праекты з Беларускім саюзам мастакоў, Асацыяцыяй кампазітараў Гродзеншчыны. На наступны год плануем арганізаваць серыю перадач на тэлебачанні «Гродна літаратурны і Гродна ў літаратуры», а сумесна з абласной тэлерадыёкампаніяй стварыць вершаваны «Каляндар» на кожны дзень 2014 года. Натуральна, удзельнічаем у гарадзенскіх чытаннях, прысвечаных 90-годдзю Васіля Быкава.

**М. Пазнякоў.** Штогод у пісьменнікаў сталічнага аддзялення СПБ выходзіць 110 — 130 аўтарскіх кніг. Каля паловы выпускаецца дзяржаўнымі выдавецтвамі. Як вядома, з 2011 года мы выдаём дзве кніжныя серыі: «Мінскія маладыя галасы» і «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ». У першай выйшла ўжо 12 кніг, у другой — 14. Зазначу, што шэсць маладых аўтараў ужо прынятыя ў Саюз (Яна Явіч, Маргарыта Латышкевіч, Дзяніс Марціновіч, Ганна Чумакова, Людміла Клачко, Алена Бабурэвіч), яшчэ два рыхтуюцца да прыёму. Значыць, кніжная серыя не толькі прадстаўляе маладых творцаў, але і ўводзіць іх у актыўнае літаратурнае жыццё. Дарэчы, абедзве серыі дапамагае выпускаць выдавецтва «Чатыры чвэрці». У планах на наступны год, да 70-годдзя вызвалення Беларусі, — нямала кніжных праектаў ваеннапатрыятычнага зместу.

Тое, што не існуе «рэгіянальнай літаратуры», мы, відаць, вызначылі. Але ж існуюць праблемы рэгіянальных літаратараў…



**А. Крэйдзіч.** Прыйшла да мяне ў кабінет (а я працую галоўным рэдактарам іванаўскай раёнкі) правізар аптэкі Інара Міхнавец і паклала на стол выдадзеную летась маю кнігу: «Падпішыце, калі ласка!» Дзе ўзяла? У нашым горадзе няма кніг мясцовых пісьменнікаў. Як я ні біўся з гандлем — што аб сцяну гарох. «У кіёску «Саюздруку», — адказала. — Апошнюю купіла». Я быў агаломшаны! Ды хутка дайшло: гэта ж мы не так даўно ладзілі прэзентацыю кнігі ў абласным «Саюздруку». Арганізаваў яе «Выдавецкі дом «Звязда». І вось вынік: у кіёсках з'явілася «Роднае, шчымлівае». Парадаваўся. Мне вельмі хацелася, каб кніга калегі-сябра Васіля Жушмы «Гарэза» таксама прадавалася ў родным гарадку, у адзінай на шаснаццацітысячны райцэнтр кнігарні. Але пакуль не дачакаўся. У адказ адно і тое ж: беларускамоўныя кнігі ніхто не купляе. Яшчэ як купляюць! Зрэшты, пакуль і ў кіёсках кніга — у мізэрнай колькасці.



**Т. Краснова-Гусачэнка.** Мне прыгадаўся выпадак, што адбыўся недалёка ад Ухты, у Рэспубліцы Комі. У пасажырскага самалёта на вышыні больш як дзесяць тысяч метраў цалкам адключылася электраабсталяванне. Спынілася падача паліва, і тэрмінова спатрэбілася пасадка. Пад крылом самалёта — тайга. Усе разумелі, што сесці яму няма куды — пагібель. І раптам сярод суцэльнага зялёнага мора паказаўся маленькі аэрадром, нават не нанесены на палётныя карты. Цуд — больш як 20 гадоў колішні ваенны аэрадром даглядаў былы работнік тэхнічнага персанала, які застаўся жыць паблізу. Навошта ён гэта рабіў? Той чалавек і сам не разумеў, але кожную раніцу ўставаў, каб змагацца з тайгой. А не было б гэтай дзіўнай, нікому не патрэбнай штатгадовай працы, самалёт не сеў бы, і загінулі б семдзесят пасажыраў.

Хіба не падобна гэта да працы нашых пісьменнікаў? Аэрадром духоўнасці захоўваюць нашы паэты і празаікі. Хіба не працуюць яны дзень і ноч над сваімі творамі — бясплатна, самааддана? А потым, часам на апошнія капейкі, выдаюць сціплыя кнігі і самі ж раздорваюць іх чытачам.

**Л. Кебіч.** Я лічу, што неабходна раўнамерна размяркоўваць месца на старонках «ЛіМа» для аўтараў усіх абласцей, бо заўважная перавага Мінскай арганізацыі.

**У. Дуктаў.** А я дадам, што больш разнастайнымі і змястоўнымі мусяць быць літстаронкі ў раённай прэсе. Няхай творцы дапамогуць рэдактарам рыхтаваць такія старонкі, знаходзіць для іх новых здатных аўтараў.

**М. Пазнякоў.** Ёсць рэчы, якія і мяне непакояць. А менавіта тое, што нямала безгустоўнай літаратуры па-ранейшаму друкуецца некаторымі сталічнымі камерцыйнымі выдавецтвамі. І такая непрафесійная, часта непісьменная літаратура трапляе ў кнігарні, бібліятэкі, што недапушчальна. Патрэбна, каб Міністэрства інфармацыі прадумала, як паставіць заслон такой «макулатуры».

Што да паляпшэння работы СПБ, то гэтае пытанне варта было б абмеркаваць дэмакратычна і ўзважана. Сабраць усе, самыя розныя, прапановы на гэты конт. Прадумаць, як зрабіць дзейнасць больш прыкметнай, яркай, вартай, уплывовай. Трэба падымаць узровень працы на якасна больш высокую прыступку.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Хто разбіў сэрца Вітаўту?

Зборнік Сяргея Вераціла «Разбітае сэрца Вітаўта» — трэці ў серыі «Маладзік», якая прысвечана дзіцячай і падлеткавай прозе. Пра што нагадвае вам назва кнігі? Верагодна, як і мне, пра іранічна-брутальны музычны гурт «Разбітае сэрца пацана». Пра што можа быць гэтая кніга? Натуральна, пра каханне, а калі сказаць дакладней, пра бясконцасць яго праяў, увасабленняў і адлюстраванняў. Зборнік пакідае ўражанне шматстайнасці гэтага пачуцця. Розныя мужчыны, розныя ўзросты, розныя сацыяльныя статусы і жыццёвыя акалічнасці. І ўсе яны судакранаюцца з пачуццём, якое адно і варыянтаў якога бясконца шмат.

Пачнём з дзяцінства, у якім ёсць толькі прадчуванне кахання, калі жанчына проста падаецца прыгожай («Веснавая рапсодыя»). У падлеткавым веку («Балада пра чатырнаццаць гадоў») гэта куды больш усвядомленае пачуццё, якое, аднак, напоўнена запамінальнымі рамантычнымі штампамі: збіранне самых прыгожых кветак у чужых гародчыках, шпурлянне букета з вершамі ў фортку і нават высакароднае «састунць дзяўчыну ў імя сяброўства». Такое каханне сапраўды бывае толькі аднойчы і з'яўляецца прэрагатывай юнацтва. Таму і запамінаецца назаўжды: «Часам я гляджу на гладка-зялёныя шары амялы і на чорныя з прастрэлінамі паветра шары гнёздаў варон, і маю душу трывожыць нейкае ўсё яшчэ незразумелае пачуццё альбо ўспамін ці прадчуванне…» Каханне перыяду студэнцтва мае свае фарбы: яно рамантычнае, выпадковае і лёгкае («Кастрычнік. Лістапад — Люты?»). Толькі ў гэты час можна, прайшоўшыся па інтэрнаце ў стане «на рагах», проста зайсці ў іншы пакой і сустрэць Яе. І будзе мець значэнне, што Яна чытае Брэдберы на англійскай, слухае Яго вершы і з Ёй можна падзяліцца марай пра шпацыр па месяцовай сцяжыне. У апавяданні «Кастрычнік. Лістапад — Люты?» каханне прысутнічае як успамін, таму тут шмат уражанняў, перададзеных вельмі тонка і незнарок. Душэўны разлом, звязаны з вобразам Жанчыны, адлюстраваны ў псіхалагічна спелым апавяданні «Разбітае сэрца Вітаўта». У ім ёсць традыцыйная злітасць вобразаў Маці-Жанчыны-Радзімы ў цэлае. Тут канкрэтныя факты біяграфіі лірычнага героя падштурхоўваюць пісьменніка да больш агульных філасофскіх рэчаў — прааналізаваць унутраныя расколіны, якія прысутнічаюць у жыцці кожнага.

Пра ілюзорнасць, якая часта праходзіць побач з каханнем, ідзе гаворка ў аповесці-мінімуме «Пікнік у халодны летні дзень на беразе возера». Рамантычныя вобразаў (тыповыя «Яна і Я» на пачатку тэксту), месца (бераг халоднага возера), сітуацыі (пікнік) спрыяюць нараджэнню паэтычнай ілюзіі кахання: «Імя тваё падобна да мора. Подых твой — слодыч вечаровых садоў. Рукі твае, як лілеі. Вочы твае — заклік да кахання», — прамаўляе герой. І тут здаецца непарушным. На жаль, усяго толькі да таго моманту, у які рэальнасць разбурае гэтае пачуццё, а яно яшчэ толькі-толькі збіралася нарадзіцца. І тут герой застаецца сам-насам з адчуваннем прыкрай страты чагосьці важнага. Тэкст выразна адлюстроўвае псіхалогію мужчыны-творчага чалавека, які хутка захапляецца жанчынай, а потым гэтак жа хутка расчароўваецца.

Каханне настройвае на імпрэсіяністычны лад, яно паглыбляе схільнасць да назірання, фіксацыі ўражання. Таму тэксты зборніка часта суправаджаюць прыгожыя імпрэсіяністычныя ўстаўкі. Гэта надае кнізе прыемную стрыманую лірычнасць: «Ціха падаў вечар. І кроплі дажджу на асфальце былі, як жалобнае аблічча флейты. Ліст яшчэ намагаўся затрымацца каля галінкі, але яго ўжо няўхільна цягнула ўніз. І ў яго ягоным запаволеным палёце зусім не было адчаю. Ён папросту пісаў сваім падзеннем слова: Восень».

Асобную частку кнігі складаюць казкі. Іх тры: «Гісторыя саду, Ружы і такога кахання, якога не бывае ў нашым жыцці, а таму пра яго пішуцца гісторыі», «Гром і Маланка», «Каралевіны галубы». Дыдактычная казка «Гром і Маланка» прысвечана асэнсаванню суадносін добрага і ліхога, фіксацыі адвечнага супрацьстаяння гэтых катэгорый. Аўтар у легендарна-алегарычнай форме раскрывае прычыны панавання зла ў свеце. Сімвалічным падарункам нябёсаў у легендзе выступаюць анёлападобныя дзеці, знойдзеныя Дзедам на беразе ракі, носьбіты светлых сіл зямлі.

Казка «Каралевіны галубы» не мае ні прамога пасылу, ні кіраўніцтва да дзеяння. Гэта фантазія для дзяцей пра тое, што лёгка і незнарок можна парушыць гармонію, што белае для аднаго можа быць чорным для другога. І таму яна няўлоўна падводзіць маленькага чытача да ўспрымання свету ў яго зменлівых варыяцыях. Фінал твора ў стылі хэпі-энд (разбурэнне галубятні, вяртанне караля, нараджэнне каралевічаў) працуе на фарміраванне пазітыўнага светаўспрымання, што адэкватна для літаратуры, адрасаванай дзецям.

Казкі С. Вераціла напісаны не пра дзяцей, як іншыя тэксты, а для дзяцей — даступнай мовай, з прыхаванай ненавязлівай філасафічнасцю («Гісторыя саду…»,



«Каралевіны галубы»), займальна. У гэтых творах таксама прысутнічае каханне, аднак акцэнт на ім не робіцца. Яно нібы спадарожнічае сюжэту, што стварае адчуванне натуральнай прысутнасці кахання ва ўсім.

Каханне ў творах С. Вераціла сапраўды рознае. Яно не з'яўляецца тым, што недасяжна, а, наадварот, разліта паўсюль і даступна. Праз усю кнігу праходзіць важная філасофская ідэя: кожны, каго кахаюць, варты кахання толькі таму, што «здолеў выклікаць яго да сябе». Усвядоміўшы гэта, лягчэй жыць, таму што каханне нясе вялікую стваральную энергію.

**Алена МІКУС**

# ...Як магчымасць сказаць

2013 год для Алеся Паплаўскага пазначаны прыемнымі падзеямі: споўнілася 55 гадоў, убачыла свет яго трэцяя паэтычная кніга «Скрыжалі душы».

Яна не разлічана на пасіўных і бяздумных. Дапытлівы чытач ад напісанага не толькі атрымае эстэтычную асалоду, але і паспрабуе ў паэтычных радках зборніка спасцігнуць таямніцы чалавечай душы, знайсці адказы на хвалюючыя пытанні: «Прайшла сузіранняў хлуслівасць. / Калі?», «Адсутнасць сэнсу — сэнс жыцця?».

Паэтычная творчасць стала для Алеся Паплаўскага, як сведчаць і яго папярэднія зборнікі «Спынены лістапад», «Незваротнасць», нечым накшталт «мастацка-сацыяльнага даследу прычын пераадолення трагедыі чалавечай адасобленасці і адзіноцтва» (паводле Р. Бярозкіна). Як тут не пагадзіцца з А. Каско, рэдактарам пералічаных паэтычных зборнікаў, што нават калі паэзія выяўляе трагізм і горыч, яна неабходна чалавеку як адна з іпастасей красы: «Неспатольнае спатоліць / Прыгажосць».

На пытанне: «Алесь, што хочацца закрэсліць з ужо напісанага, што — забыць»? — ён з пачуццём уласнай годнасці шчыра адказаў: «Нічога з напісанага не выклікае сум, сорам, прыкрае адчуванне; нічога не хочацца забыць, бо гэта частка мяне, жыцця». Ці не па гэтай прычыне А. Паплаўскі любіць дарыць добрым людзям свае кнігі. Аднойчы, падчас прэзентацыі першага паэтычнага зборніка, ён аказаўся настолькі шчодрым, што сам застаўся без ніводнага экземпляра.

Лірычны герой А. Паплаўскага — чалавек неабыякавы, актыўны, дзейны. Ён не адасабляецца ад лёсу сваіх суайчыннікаў: «З'ядналыя лёсам. Няма на каго наракаць», хаця крыўдна і балюча «…І з году ў год / Чужыною радзімы дыхаць. / Тварам тыцкаюць на ўваход, / А шукаем уласны выхад».

Лірычны герой марыць пра гарманічныя ўзаемадносіны паміж людзьмі. Туга па страчанай гармоніі, недасканаласць свету, безабароннасць чалавека ў грамадстве ўзмацняюць драматызм вершаў. Невыпадкова ў зборніку дамінуе матыў увядання жыцця, адзіноты, скрухі: «шэрасць няспраўджаных дзён», «адзінота шэрых дзён», «месяц, нібыта плаха», «змучаная ноч», «стомлены ранак», «туга злачынная» і інш.

Шкада, што лірычны герой не здольны вырвацца з палону супярэчнасцей, ён знаходзіцца ў духоўным разладзе нават з самім сабой. Лірычны герой паэта імкнецца нікому не паказваць сваёй слабасці, разгубленасці. Гэта моцная натура: «Сляпцы… / Нашто шукаць спагаду / У тых, хто просіць сам яе?». Адзіны чалавек, да якога, стомлены, расчараваны, ён звяртаецца са споведдзю, — гэта матуля, а дакладней — светлая, удзячная памяць пра яе. Маці, на думку паэта, — адзіная, хто здольны яго зразумець («дні мае — твае трывогі») і падтрымаць, хто хвалюецца, каб яе сын не стаў чужынцам на сваёй зямлі:

*Кажуць, зноў вясною гэтай*
*Не цвіла мая каліна.*
*Мама, ты не вер прыкметам,*
*Я не стаў чужынцам-сынам.*
*Я сябе яшчэ не страціў*
*За будзённай мітуснёю,*
*Адчыні мне дзверы, маці,*
*Я даўно не быў з табою.*

У традыцыйнай мадэлі сусвету каліна звязана з ніжнім светам, светам памерлых. Уводзячы гэты вобраз у верш, А. Паплаўскі падкрэслівае, што няўлоўная, на першы погляд, сувязь яго героя з маці захоўваецца і пасля яе смерці.

Паступова праз боль, праз няспраўджанасць многіх жаданняў і мар лірычны герой А. Паплаўскага прыходзіць да ўспрымання жыцця ва ўсёй разнастайнасці яго праяў:

*І толькі там, за мітуснёю,*
*Дзе нават боль — як паратунак,*
*Вучуся быць самім сабою*
*У недасяжных чыстых думах.*

Годна перажываць падзенне, па-чалавечы вырашаць праблему выбару на шляху пошуку духоўнага суладдзя лірычнаму герою дапамагае вера, што дасталася яму ў спадчыну ад прадзедаў: «Веру я — значыць я жыву / на адвечнай зямлі пакутаў». Гэтыя радкі з верша «Адзінотаю згрызены дзень», паслужылі назваю для першай рэцэнзіі на першую паэтычную кнігу аўтара.

Пройдзе час, і ў аповесці «Піраміды» празаік А. Паплаўскі зробіць спробу ўдакладніць сваю пазіцыю: «Я не з тых людзей, якія здаюцца без бою... Мы павінны перажыць гэтае падзенне. Перажыць, паўтараюся, а не пераступіць праз яго. Бо калі праз усё і праз усіх пераступаць, можна незаўважана пераступіць праз сваё жыццё».

Пагадзіцеся, назва зборніка «Спынены лістапад» адпавядае духоўным пошукам героя. «Восень, — адзначае літаратуразнаўца Хатэнка, — мае сваю мелодыку. Яна не просіць літасці і спагады, як вясна дзеля завязі, не бунтуе цягай зачыну, як лета, не песціць надзею на абуджэнне, як зіма. Восень рахунке. Яна мудра і прасветлена бачыць, хто чаго варты».

Як сведчыць другі зборнік паэта «Незваротнасць», Алесь Паплаўскі сцвердзіў сябе як паэт філасофскага складу. Ён параней шаму ўсведамляе драматычную нестабільнасць свету, космасу, раз'яднанасць пачуццяў, думак, цела, душы: «Дзе радасць, там поруч — здрада. / Дзе ўпэўненасць, там — ваганні». Але ж у адрозненне ад сябе ранейшага, аўтара зборніка «Спынены лістапад», ён навучыўся даражыць кожнай пражытай хвілінай:

*Страчваць альбо мець —*
*Крайнасці быцця.*
*Не акупіць смерць*
*Мудрасці жыцця.*

А. Паплаўскі сядае за чысты аркуш толькі ў тым выпадку, калі яму ёсць што сказаць новага, бо, як сцвярджае паэт, «невядомасць — вынік», а «існасць — небыццё». Творчасць для яго — гэта магчымасць самарэалізацыі:

*Ні наперад, ні ўбок, ні назад…*
*І пастукаеш — не адчыняць.*
*І пяро як магчымасць сказаць.*
*І папера як немагчымасць.*

Пройдзе час, і менавіта гэтым чатырохрадкоўем Алесь адкрые свой чарговы паэтычны зборнік «Скрыжалі душы».

Вершы, якія ўключыў паэт у трэці зборнік, у большасці выпадкаў пазбаўленыя роспачы, у іх пануе мудрае разуменне дыялектыкі жыцця. Яны абуджаюць «творчую энергію людзей, перш за ўсё мысленне» (менавіта так разумела Н. Мацяш прадмет і сэнс любога віду мастацтва).

Скрыжалі душы А. Паплаўскага — мудрыя парады мастака слова сучаснікам і наступнікам, у якіх філасофія жыцця, асэнсаванне сябе як творцы, шлях да спазнання чалавека. Сродкамі паратунку для паэта заўжды былі Творчасць, Бацькаўшчына, Айчына, Краса мастацтва, Каханне, Дабрыня.

Сваіх аднадумцаў Алесь Паплаўскі знайшоў у літаратурным аб'яднанні пры абласной газеце «Заря» (г. Брэст), якім кіравала Зінаіда Дудзюк. З павагаю, любоўю гаворыць ён пра гэтую пісьменніцу, бо менавіта Зінаіда Іосіфаўна дапамагла сцвердзіцца маладому чалавеку. Яна пазнаёміла Алеся з Уладзімірам Каленікам, у 1989 годзе надрукавала ў рубрыцы «Дэбют» у абласной газеце «Заря» яго верш «Реки изгиб, небес голубизна...» З яе лёгкай рукі ў 1990 годзе Алесь Паплаўскі разам з Вітаўтам Чаропкам, Ігарам Сідаруком і іншымі стаў удзельнікам Рэспубліканскага семінара маладых літаратараў у Іслачы. З гэтага часу ён піша толькі па-беларуску, свядома, зацікаўлена вывучае родную літаратуру: творчасць Кузьмы Чорнага, Максіма Танка, Васіля Быкава ды інш.

Пэўны час Алеся Паплаўскага на Берасцейшчыне болей ведалі як аўтара і выканаўцу бардаўскай песні. У канцы васьмідзясятых свет рамантычнаму маладому чалавеку, які пасяліўся на сталае жыццё ў Брэсце, здаваўся цесным, няўтульным. Ён узяў у рукі гітару...

Песенны дар А. Паплаўскі атрымаў у спадчыну ад бацькоў, а замежная літаратура, вывучэннем якой ён быў захоплены пэўны перыяд, узбагаціла напеўны, нязмушаны верш паэта, паглыбіла талент шчырага, пранікнёнага лірыка. Прынцып Верлена — «Музыка — перадусім» — выразна прасочваецца ва ўсіх паэтычных кнігах А. Паплаўскага. Яго вершы вызначаюцца элегічным пачаткам, сцішанасцю гукаў, тонкім лірызмам. Апошнім часам Алесь захапіўся класічнай музыкай, якая нязмушана гучыць на старонках кнігі паэзіі «Скрыжалі душы».

**Ніна БОРСУК**

# Славісты і іх АЛА



*Падчас наведвання мястэчка Рэзія (Італія).*

У сучаснай лінгвістычнай літаратуры важнае месца займае Агульнаславянскі лінгвістычны атлас (АЛА). Ён прадстаўляе найбагацейшы матэрыял для дакладнага вызначэння фанетыка-граматычных і лексіка-словаўтваральных адметнасцей сучасных славянскіх моў/дыялектаў, адкрываючы новыя магчымасці ў вывучэнні мінулага і сучаснага стану славянскага дыялектнага кантынууму. Штогод славісты з усіх славянскіх краін і Германіі, на тэрыторыі якой функцыянуюць лужыцкія мовы, з'язджаюцца на рабочыя нарады па Агульнаславянскім лінгвістычным атласе.

Падчас з'ездаў лінгвісты падводзяць вынікі працы над АЛА за папярэдні год, прадстаўляюць новыя выпускі, абмяркоўваюць падрыхтоўку матэрыялаў і карт, распрацоўваюць план работы і заданняў для нацыянальных камісій на наступны год. Сёлета ў пачатку лістапада беларуская нацыянальная камісія Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа пры Міжнародным камітэце славістаў узяла ўдзел у чарговай сустрэчы ў г. Партарож (Славенія). У рабочым пасяджэнні ўдзельнічала 47 вучоных з 12 нацыянальных камісій, Беларусь, Балгарыя, Германія, Македонія, Польшча, Расія, Сербія, Славакія, Славенія, Украіна, Харватыя і Чэхія. Беларускі бок прадстаўлялі М. П. Антропаў, Л. П. Кунцэвіч, Т. Я.Шэмет і аўтар гэтых радкоў (старшыня беларускай нацыянальнай камісіі АЛА).

Праца над АЛА пачалася ў канцы 50-х гадоў XX ст., пасля таго як на IV Міжнародным з'ездзе славістаў у Маскве (1958) вучоныя Р. І. Аванесаў і С. Б. Бернштэйн абгрунтавалі ідэю стварэння лінгвістычнага атласа. У дакладзе «Лингвистическая география и структура языка» яны выступілі з прапановай аб неабходнасці стварэння АЛА і прадставілі тэарэтычнае абгрунтаванне будучага праекта. Сёння Агульнаславянскі лінгвістычны атлас з'яўляецца грандыёзным лінгвагеаграфічным праектам параўнальна-гістарычнага мовазнаўства, аналагаў якому ў славістыцы няма.

З самага пачатку працы пры Міжнародным камітэце славістаў была арганізавана Камісія АЛА, у якую ўвайшлі вядучыя мовазнаўцы розных краін; быў спецыяльна распрацаваны «Апытальнік АЛА», у які ўключана 3454 пытанні; навукоўцы вызначылі сетку абследавання тэрыторыі (з разліку 60 км паміж населенымі пунктамі). За адносна кароткі час у 853 населеных пунктах Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Балгарыі, Югаславіі, а таксама ў месцах пражывання славянскага насельніцтва ў Германіі, Венгрыі, Румыніі, Італіі і Аўстрыі многанацыянальны калектыў сабраў вялікі фактычны матэрыял. Да пачатку 80-х гг. XX ст. збіранне дыялектных матэрыялаў было цалкам завершана. Гэты атлас — беспрэцэдэнтная з'ява ў гісторыі сусветнай дыялекталогіі.

Беларускія вучоныя адразу ўключыліся ў працу над выданнем. Старшынёй беларускай нацыянальнай камісіі ў 1958 г. быў прызначаны М. В. Бірыла. Ён арганізоўваў збор дыялектных матэрыялаў і складанне картатэкі, узначаліў правядзенне лінгвагеаграфічных даследаванняў на базе акадэмічнага Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа. Сетка абследавання АЛА для Беларусі была вызначана ў 74 населеныя пункты.

Дарэчы прыгадаць, што яшчэ на першым з'ездзе славістаў у Празе (1929) аўтар аднаго з першых лінгвагеаграфічных апісанняў беларускай мовы П. А. Бузук у дакладзе «Лінгвістычная геаграфія як дапаможны метад пры вывучэнні гісторыі мовы» пісаў пра неабходнасць стварэння славянскага лінгвістычнага атласа: «Іменна геаграфічнае вывучэнне моўных фактаў з'явіцца адным з тых метадаў, якія дадуць магчымасць падвесці пад мову сацыяльна-эканамічную базу, бо шляхі моўнага жыцця з'яўляюцца роўналеглымі шляхам уплыву эканамічна-палітычных чыннікаў».

Сапраўды, праца над АЛА стала ўраджайным полем даследавання для міжнароднай групы дыялектолагаў са славянскіх краін. Пачынаючы з 1988 г., калі ў Маскве і Бялградзе былі надрукаваны першыя выпускі атласа, свет пабачыла 14 тамоў. Надрукаваныя выпускі фанетыка-граматычнай серыі складаюцца ў асноўным з карт, якія адлюстроўваюць рэфлексы праславянскіх фанем у асобных словаформах. Асноўным аб'ектам лінгвагеаграфічнага вывучэння сталі праславянскія галосныя (рэфлексы *ě, назальныя галосныя *ǫ і *ę, складовыя сананты *ьr, *ъr, *ьl, *ъl, рэдукаваныя *ъ і *ь, *о, *е), якія ў працэсе развіцця страцілі фаналагічную тоеснасць на большай частцы славянскай тэрыторыі.

Выпускі лексіка-словаўтваральнай серыі прадстаўляюць тэрытарыяльнае распаўсюджанне лексічных найменняў наступных сфер: жывёльны свет, жывёлагадоўля, раслінны свет, прафесіі і грамадскае жыццё, хатняя гаспадарка і прыгатаванне ежы, чалавек, сельская гаспадарка. У апошні час на падставе апрацаваных нацыянальнымі камісіямі матэрыялаў рыхтуюцца да выдання чарговыя выпускі АЛА: фанетыка-граматычная серыя «Рэфлексы *tort, *tolt, *tert, *telt» (чэшская камісія), «Рэфлексы *у, *і, *u» (славенская), «Рэфлексы *а» (беларуская), «Займеннікі» (македонская), «Назоўнікі» (славацкая); лексіка-словаўтваральная серыя «Гігіена і медыцына» (лужыцкая), «Ступені роднасці» (балгарская), «Народныя звычаі» (расійская), «Народная тэхніка, транспарт і шляхі зносін» (украінская), «Метэаралогія і вымярэнне часу» (беларуская).

Трэці этап даследавання моўнай прасторы *terra Slavia* азнаменаваў выхад апісальных манаграфій, падрыхтаваных на падставе матэрыялаў атласа, «Leksyka dotycząca hodowli na mapach ogólnosłowiańskiego atlasu językowego. Substantiva» Б. Фалінска і «Русские диалекты в общеславянском контексте (лексика)» Т. І. Вендзіна. Першая кніга прадстаўляе сістэмнае апісанне лінгвагеаграфічнай характарыстыкі лексікі са сферы жывёлагадоўлі, другая — хатняй гаспадаркі і прыгатавання ежы. Супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі падрыхтавалі аналітычную манаграфію «Матэрыялы Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа. Раслінны свет», у якой статыстычныя характарыстыкі лексікі расліннага свету сістэматызаваныя ў табліцах, што таксама зручна для карыстальнікаў.

Разам з тыпалагічным падабенствам у матэрыялах атласа выразна бачныя і адрозненні, якія знайшлі выражэнне ў характэрнай для кожнай мовы сістэматызацыі форм чалавечага мыслення пры дапамозе лексіка-словаўтваральных сродкаў намінацыі. У гэтым сэнсе АЛА з'яўляецца ўнікальнай крыніцай звестак пра лёс праславянскіх дыялектызмаў і тых моўных працэсаў, якія адбываліся ў славянскіх мовах/дыялектах. Некалькі прыкладаў з выпуска «Раслінны свет» з эксклюзіўнымі лексемамі, што функцыянуюць толькі на адпаведных тэрыторыях. Так, эксклюзіўнымі беларускімі назвамі *ядлоўца* з'яўляюцца *ялец*, *пад'яловец*, *ажыны* — *медзвядзіны*, *сербаліны*. Толькі на тэрыторыі Беларусі *ядавіты грыб* называюць *ваўчак*, *воўчы губяк*. Наяўнасць падобных эксклюзіўных лексем сведчыць пра самабытнасць беларускіх гаворак.

Выдзяляюцца і ўсходнеславянскія эксклюзіўныя назвы аб'ектаў расліннага свету. Напрыклад, толькі на тэрыторыі Беларусі, Расіі і Украіны сустракаюцца такія назвы: *піхта*, *куст*, *ежэвіка*, *земляніка*, *паганка*, *паганскі грыб*, *прыдарожнік*, *незабудка*.

Па завяршэнні публікацыі ўсіх запланаваных выпускаў АЛА навукоўцы змогуць дакладна вызначыць генетычныя, гістарычныя ўзаемаадносіны беларускіх і іншых славянскіх гаворак па самым шырокім комплексе фанетычных, граматычных, лексічных асаблівасцей.

Падчас нарады ў г. Партарож зладжаны калектыў славістаў, які сёння ўзначальвае прафесар Т. І. Вендзіна (Інстытут славяназнаўства РАН), правёў пленарныя і рабочыя пасяджэнні камісій, абмеркаваў і зняў пытанні па чарговых выпусках АЛА, якія рыхтуюцца нацыянальнымі камісіямі да друку, удакладніў камп'ютарныя праграмы, абмеркаваў план дзейнасці нацыянальных камісій да наступнай рабочай нарады ў Кіеве. Да гэтага часу лінгвісты-славісты падрыхтавалі 10 выпускаў атласа.

Карыстаючыся магчымасцю, беларуская нацыянальная камісія выказвае падзяку Інстытуту славенскай мовы імя Ф. Рамоўша Навукова-даследчага цэнтра Славенскай акадэміі навук і мастацтваў за пазнавальную культурную праграму і пасяджэнне.

**Валянціна РУСАК**

# Маладое мовазнаўства

У беларускім мовазнаўстве самай маладой галіной з'яўляецца марфаналогія. Гэта лінгвістычная дысцыпліна вывучае тыя сродкі каардынацыі граматыкі і фаналогіі, якімі выражаецца і выяўляецца адзінства слова. Як асобны раздзел мовазнаўства марфаналогія звязана з вывучэннем фаналагічных адрозненняў у будове марфем розных тыпаў і ў складзе морфаў адной марфемы, а таксама з выкарыстаннем гэтых адрозненняў у функцыянальных мэтах.

У беларускім мовазнаўстве сістэматычнае даследаванне марфаналагічных сродкаў мовы не праводзілася да 1980-х гадоў, хоць на неабходнасць іх распрацоўкі звяртаў увагу яшчэ ў 1969 годзе П. П. Шуба. Пазней прафесар сам узяўся за гэтую тэму — у вучэбным дапаможніку «Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія» (1987). Тады ж была падрыхтаваная і праца Н. Н. Гардзей «Марфаналогія службовых часцін мовы і прыслоўяў у беларускай і рускай мовах».

В. Русак распрацоўвае марфаналогію з 1990 года, з таго самага часу, калі падрыхтавала кандыдацкую дысертацыю «Марфаналогія дзеяслова ў беларускай мове». На працягу 1988 — 2010 гг. яна апублікавала дзясяткі навуковых прац, прысвечаных розным пытанням марфаналогіі беларускай мовы, а ў 2003 годзе выйшла ў свет і манаграфія В. Русак «Марфаналогія сучаснай беларускай мовы». На аснове гэтай кнігі мовазнаўца абараніла доктарскую дысертацыю.

Летась у выдавецтве «Беларуская навука» выйшла яшчэ адна манаграфія В. Русак «Марфаналогія словазмянення і словаўтварэння сучаснай беларускай мовы». Асноўная мэта кнігі — раскрыць унутраныя заканамернасці марфаналагічных з'яў ва ўсёй сістэме словазмянення і словаўтварэння сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Аўтар вызначае семантычныя, фанематычныя і стылістычныя фактары такіх марфаналагічных з'яў, як усячэнне і нарашчэнне матывавальных асноў, чаргаванне фанем, налажэнне марфем і асобных фанем; даследуе, якім чынам гэтыя з'явы ўздзейнічаюць на словазмяняльную і словаўтваральную структуру слова; выяўляе ўмовы спалучальнасці словаўтваральных адзінак на дэрывацыйным шве, вызначае характар марфаналагічных змен, іх рэгулярнасць, прадуктыўнасць і функцыянальную нагружанасць.

Даследчыца сфармулявала марфаналагічныя законы, істотныя для знамянальных часцін мовы. Працу суправаджае ілюстрацыйны матэрыял.

Кніга мае шэсць частак — «Марфаналагічная праблематыка ў сучасным мовазнаўстве», «Марфаналогія словазмянення», «Марфаналогія словаўтварэння», «Марфаналагічная класіфікацыя дзеясловаў», «Марфаналагічная класіфікацыя назоўнікаў» і марфаналагічны аспект засваення новых слоў у сучаснай беларускай мове.

Маюцца таксама табліцы, тры дадаткі і вялікі спіс навуковай літаратуры па марфаналогіі.

Выданне разлічана перадусім на выкладчыкаў ВНУ і сярэдніх навучальных устаноў, навуковых супрацоўнікаў, аспірантаў, студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей.




Цяпер можна сказаць, што ў беларускім мовазнаўстве канчаткова сфарміравалася такая галіна, як марфаналогія.

**Мікалай КРЫЎКО**

*Форум-2014*

# Рэдактар — прафесія рамантычная?

Падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якая пройдзе ў сталіцы ў пачатку лютага, ужо па традыцыі шырока будзе прадстаўлена нямецкае кнігавыданне. З новымі арыгінальнымі і перакладнымі кнігамі на нямецкай мове наведвальнікі змогуць пазнаёміцца на стэндах Інстытута імя Гётэ ў Мінску і пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі. Натуральна, сярод іншых у «БелЭкспа» будуць змешчаны і навінкі знакамітага гамбургскага выдавецтва *Hoffmann und Campe.* Яно спецыялізуецца на выданні арыгінальнай мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры.
Пра адметнасці працы рэдактара (лектара) нямецкага выдавецтва, пошук новых праектаў і аўтараў, а таксама пра тое, якія беларускія кнігі могуць зацікавіць нямецкага чытача, падчас нядаўняга семінара Інстытута імя Гётэ ў Мінску распавяла галоўны рэдактар *Hoffmann und Campe* доктар Канстанцыя Нойман.


*Фота з сайта www.boersenblatt.net*

## ВЫДАЦЬ І… ПРАДАЦЬ

— Калі вы мяркуеце, што рэдактар нямецкага выдавецтва большую частку часу праводзіць за чытаннем тэкстаў, седзячы дзе-небудзь у ціхім куточку, то моцна памыляецеся. Я вывучала літаратуразнаўства, і ў мяне адпачатку таксама было крыху рамантычнае ўяўленне пра тое, як з'яўляюцца кнігі. Праца непасрэдна над рукапісам складае прыкладна 20 працэнтаў майго працоўнага часу. Апроч гэтага рэдактар (лектар) шукае аўтараў і рукапісы, вядзе перамовы па набыцці правоў на пераклад і выданне кнігі ў Германіі, яшчэ да выхаду кнігі прадумвае і рыхтуе маркетынгавую і медыяльную стратэгію, а пасля рэлізу выдання разам з аўтарам працуе над распаўсюджваннем кнігі: ладзіць прэзентацыю — прэм'еру, арганізоўвае інтэрв'ю ў СМІ, дамаўляецца аб прадстаўленні кнігі і аўтара падчас форумаў і кірмашоў…

Наша задача не толькі выдаць добрую кнігу. Мы цалкам бяром на сябе працу з грамадскасцю, СМІ, а таксама арганізоўваем пісьменніцкія сустрэчы ва ўсёй Германіі. Часцей за ўсё гэта чытанні ў кнігарнях, падчас якіх аўтар прадстаўляе сваю кнігу.

Наша палітыка заключаецца не толькі ў тым, каб рыхтаваць і распаўсюджваць асобныя кнігі аўтара. У ідэальным варыянце мы хацелі б, каб пісьменнік усё жыццё з намі супрацоўнічаў. У Германіі надзвычай вялікай папулярнасцю карыстаюцца кнігі, дзе сабрана перапіска паміж аўтарам і выдаўцом. Немцы ахвотна іх чытаюць. Яны паказваюць, наколькі блізкія адносіны маюць аўтар і выдавец, а з іншага боку падкрэсліваюць, што супрацоўніцтва выходзіць за межы бізнесу, больш за тое, праз перапіску з рэдактарам раскрываюцца і новыя рысы асобы пісьменніка.

Мы ганарымся такімі аўтарамі, як Зігфрыд Ленц, які з нашым выдавецтвам супрацоўнічае ўжо больш як 60 гадоў. Зразумела, што такі доўгі шлях пачынаецца з першай кнігі, таму мы паставілі сабе задачу хаця б раз на год выпускаць дэбютны раман аднаго зусім невядомага аўтара — каб адкрыць новае імя для сябе і для чытацкай аўдыторыі.

## ПЕРАКЛАД: ШЛЯХ ДА ЧЫТАЧА

— Нягледзячы на тое, што асноўная ўвага выдавецтва *Hoffmann und Campe* скіравана на творчасць нямецкіх празаікаў, перакладная літаратура з'яўляецца вельмі важным аспектам нашай дзейнасці.

Агенцтвы Лондана, Парыжа і Нью-Ёрка штотыдзень дасылаюць нам агляды кніг, якія рыхтуюцца да друку ў выдавецтвах краін. І гэта справаздачы не пра гатовыя праекты, а толькі рукапісы. Літаратурныя разведчыкі ў такіх справаздачах указваюць інфармацыю пра выдавецтва, дзе выйдзе кніга, а таксама агенцтва, што займаецца продажам правоў на яго пераклад. Кожны тыдзень ад кожнага з разведчыкаў я атрымліваю прыкладна 20 старонак такой справаздачы.

Прыняцце рашэння наконт выдання перакладных кніг і набыцця правоў заўсёды звязана з вельмі вялікай рызыкай. Да прыкладу, на мінулым тыдні з ЗША мы атрымалі паведамленне пра хуткі выхад дэбютнага рамана аднаго маладога аўтара. Аб'ём кнігі — 900 старонак. У Злучаных Штатах правы на яго выданне былі прададзеныя за 2 мільёны долараў, а ў Германію іх прапануюць перапрадаць за 200 тысяч еўра. Гэта таксама вельмі вялікая сума для нас і вельмі вялікая рызыка. Мы адмовіліся ад праекта, бо, па-першае, аўтара яшчэ ніхто не ведае, гэта яго дэбютная кніга, па-другое, аб'ём у 900 старонак патрабуе дадатковых значных затрат на пераклад кнігі. Прымаючы такія рашэнні, мы ўзважваем усе магчымыя варыянты, ацэньваем ступень рызыкі і прыслухоўваемся да меркавання кансультантаў, экспертаў.

Праца па пошуку партнёраў у замежных выдавецтвах, набыцці правоў на пераклад твора яшчэ да афіцыйнага рэлізу кнігі на мове арыгінала становіцца для нас усё больш важнай. Колькасць жыхароў Германіі, якія могуць вольна чытаць па-англійску, павялічваецца. Калі мы не паспяваем зрабіць пераклад надзвычай значнага англамоўнага твора на нямецкую мову і выдаць яго адначасова з арыгіналам, то губляем значны прыбытак. Самы вядомы прыклад — кнігі пра Гары Потэра. У час іх прэм'еры кожны дзень пратэрміноўкі каштаваў бы нам зніжэнне тыражу нямецкамоўнага перакладу на 10 тысяч асобнікаў.

## ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ НА БЕЛАРУСЬ!

— Германія — краіна чытачоў раманаў, таму гэта павінен быць раман, і гэта павінна быць кніга пра тое, чаго чытач з Германіі яшчэ не ведае. Яна мусіць адкрываць новы свет, распавядаць пра жыццёвы досвед, якога мы не маем. Праблема з выданнем перакладаў беларускіх кніг яшчэ і ў тым, што нам вельмі складана знайсці чалавека, які чытаў бы па-беларуску і пісаў нам водгукі-рэкамендацыі на кнігі.

Калі вы лічыце, што маеце кнігу, рукапіс, які мог бы быць патэнцыяльна цікавым за мяжой, то патрэбна абавязкова зрабіць невялікі сінопсіс кнігі на англійскай мове, а таксама перакласці на англійскую ўрывак з яе (прыкладна 20 старонак). Гэтыя матэрыялы можна рассылаць у выдавецтвы розных краін. Варта таксама звярнуць увагу на замежныя літаратурна-мастацкія часопісы. Здараецца так, што пасля дэбюту на іх старонках імя пісьменніка выклікае цікавасць і выдаўцоў кніг. Канечне, вельмі добрая магчымасць для аўтараў і для выдавецтваў знайсці адно аднаго — Лейпцыгскі кніжны кірмаш. Менавіта гэты форум арыентаваны на Усходнюю Еўропу, і ён дае больш магчымасцей атрымаць увагу шырокай публікі, чым штогадовы кірмаш у Франкфукце-на-Майне. Вельмі важныя таксама і асабістыя кантакты. Таму калі аўтар збіраецца наведаць міжнародны форум, яму варта загадзя паклапаціцца пра арганізацыю сустрэч з патэнцыяльнымі партнёрамі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Рарытэты ў падарунак




У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася дабрачынная акцыя — перадача кнігі «Жывая вера. Ветка», што пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», рэспубліканскім, абласным і раённым бібліятэкам краіны, а таксама бібліятэкам устаноў адукацыі і культуры. Яе ініцыятарамі і арганізатарамі выступілі Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь — Расійскі цэнтр навукі і культуры ў Мінску, а таксама выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі».

Выданне «Жывая вера. Ветка» нездарма прыцягнула ўвагу ініцыятараў акцыі. Кніга раскрывае адметнасці мастацкай культуры і творчасці ўнікальнага рэгёна на паўднёвым усходзе Беларусі — стараверскай Веткі, гістарычнага цэнтра царкоўнага расколу канца XVII — XVIII ст. Падчас урачыстай перадачы кніг саветнік пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі, кіраўнік Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь Віктар Малашэнка адзначыў:

— Асобны перыяд нашай агульнай гісторыі звязаны з пэўнымі кананічнымі зменамі ў праваслаўі. Нехта пайшоў за новымі тэндэнцыямі, нехта застаўся верны старым традыцыям. І з'явілася такая з'ява, як стараверства. Мы не будзем сёння судзіць нашых продкаў, якія жылі ў той час, а будзем берагчы старонкі мінуўшчыны, ставіцца з павагай да гэтага перыяду гісторыі. У межах праекта «Агульная спадчына Старой Русі» мы знайшлі магчымасць аказаць невялікую дапамогу бібліятэкам Беларусі, каб гэты бясцэнны твор кніжнага мастацтва знайшоў сваё месца на паліцах музеяў, кніжніц не толькі ў Мінску, але і ва ўсёй Рэспубліцы Беларусь. Я ўпэўнены, што сённяшняя акцыя стане новым крокам у захаванні і ўмацаванні культурна-гуманітарнага супрацоўніцтва паміж Расіяй і Беларуссю.

Крыху раней у межах праекта «Агульная спадчына Старой Русі» кнігі «Жывая вера. Ветка» ўжо былі перададзены кіраўніцтву Бранскай вобласці Расійскай Федэрацыі, а таксама папоўнілі кніжныя зборы Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі.

Галоўны рэдактар выдавецтва «БелЭн імя П. Броўкі» Ларыса Языковіч падчас імпрэзы звярнула ўвагу прысутных і на іншыя праекты, прысвечаныя беларуска-расійскаму супрацоўніцтву на працягу многіх стагоддзяў. Гэта, у прыватнасці, выданне «Беларусы Масквы. XVI ст.», дзе асвятляецца ўклад ураджэнцаў Беларусі ў фарміраванне культурнага аблічча сталіцы Расіі, факсімільнае перавыданне «Баркулабаўскага летапісу», які быў створаны ў XVII ст. на тэрыторыі сучаснай Быхаўшчыны і цяпер у адзіным экзэмпляры захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі Масквы. Прыцягнуць увагу расійскіх калег можа і працяг кнігі «Жывая вера. Ветка», — выданне «Кніжная культура Веткі», што таксама пабачыла свет у серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў».

**Чэслава ПАЛУЯН**

*Нататкі рамантычнага маркетолага*



Кацярына СІМАН

# Заслона ў свет букіністыкі

Адна з самых цудоўных рэчаў, якія могуць здарыцца з чалавекам у жыцці, — гэта сяброўства. Мне з гэтым вельмі пашчасціла. Іншая справа, што з-за заўсёднай занятасці сустракацца з сябрамі атрымліваецца нячаста. Але такія рэдкія сустрэчы неверагодна цэніш. Некалькі дзён таму ў мяне атрымалася, нарэшце, спаткацца з сяброўкай Машай Ш. Варта адзначыць, што Маша — чалавек неверагодна захапляльны, як раман Дзюма, яркі, як «тысяча сонцаў, што ззяюць», і іскрыста-радасны, як чэшская калядная казка. Гэтая сустрэча дала мне тэму для новай гутаркі з вамі, дарагія чытачы.

Справа ў тым, што Маша — будучая оперная спявачка. Не так даўно яна ездзіла ў Парыж на адборачны тур конкурсу імя Віньяса. Праслухоўванне праслухоўваннем, а прагулкі па горадзе кахання ніхто не адмяняў. Шпацыруючы па Парыжы, Маша выйшла на набярэжную Сены. «І тут, — кажа яна, — успомніла я пра цябе». А ўсё таму, што набярэжныя парыжскай воднай артэрыі здаўна аблюбавалі асаблівыя людзі. Калісьці каралеўскім указам іх прыраўноўвалі да злодзеяў і нават клашараў (так у Парыжы называюць бяздомных). Іх баяліся як агню: і невыпадкова, бо гэтыя людзі маглі распаўсюджваць забароненую літаратуру і палітычныя памфлеты! Гаворка пра букіністаў, якія з'явіліся ў Парыжы ў XVI стагоддзі на Новым Мосце, доўгія стагоддзі падаваліся ворагамі ўлады і толькі ў 1891-м па праве сталі адной з вузлавых кропак у мазаіцы парыжскага жыцця.

Як і раней, тут з лёгкасцю можна адшукаць пацёртыя тамы, натрапіць на прыжыццёвае выданне Хемінгуэя, вінтажныя гравюры з відамі Парыжа, часопісы мод ранейшых часоў ці пласцінкі з французскім шансонам. Праўда, сучасны дух камерцыі ўжо адчуваецца і тут: збольшага цяпер прадаецца тое, што запатрабавана турыстамі.

Па праўдзе кажучы, я лічу, што тэма букіністычных і антыкварных кніг — гэта іншы свет са сваімі тэорыямі зараджэння, эвалюцыі і навуковымі метадамі вывучэння. Як і ў любой акадэмічнай дысцыпліне, тут першыя старонкі гэтага падручніка прысвечаны гісторыі прадмета. Таму сёння мне хацелася б прыадкрыць цяжкую заслону ў легендарны і ўнікальны свет букіністыкі і антыкварных кніг.

Радзіма букіністычнага кніжнага гандлю — Германія. Магчыма, менавіта з гэтай прычыны сёння краіна па праве лічыцца гуру ў свеце кніжнага бізнесу. З 1564 года тут сталі друкавацца каталогі старых кніг і старадрукаў, якія прадаваліся на кірмашах у Лейпцыгу і Франкфурце-на-Майне. Услед за Германіяй моду падхапілі і іншыя еўрапейскія сталіцы: Парыж, Лондан, Амстэрдам.

Расія ж прыняла новага жыхара ў сваё абдымкі толькі ў канцы XVIII стагоддзя. Першым кніжным антыкварам быў Ігнацій Ферапонтаў, якога розныя даведнікі называюць не інакш як «першым збіральнікам славяна-рускіх старажытнасцей». Вядомы расійскі філолаг К. Калайдовіч у 1811 годзе ў адной са сваіх работ, прысвечаных Ферапонтаву, пісаў так: «*Вывучыўшыся грамаце, ён з захапленнем стаў чытаць і разбіраць старажытныя царкоўныя кнігі, і гэтая ахвота хутка ператварылася ў яго страсць*».

Наступным разам мы з вамі прадоўжым гутарку пра кніжныя старажытнасці. Так ці інакш, усе мы нашчадкі Ферапонтава, бо ахвота да чытання і для нас з'яўляецца страсцю.

*Выдавецкія клопаты*

# Каб атрымаўся дыялог

**Напэўна, лішнім будзе падкрэсліваць, якую ролю ў справе падрыхтоўкі і выпуску новых кніг мае дыялог: дзяржавы і выдавецтва, выдавецтва і аўтара, аўтара і чытача… Па сутнасці, менавіта пытанням пошуку правільных шляхоў пабудовы такога ўзаемазразумелага і ўзаемавыгаднага дыялогу быў прысвечаны «круглы стол», арганізаваны ў Доме літаратара выдавецтвам «Чатыры чвэрці», Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Тэма імпрэзы была акрэслена наступным чынам: «Роля і значэнне выдавецтва ў культурнай і інфармацыйнай прасторы краіны на сучасным этапе». Гэтае мерапрыемства стала заключным у шэрагу юбілейных сустрэч выдавецтва «Чатыры чвэрці».**

— 20 гадоў таму мы знайшлі сваю нішу, паспрабавалі сябе як нотна-музычнае выдавецтва і засталіся ў гэтай культуры назаўсёды, а нашы інтарэсы сталі больш глыбокія і шырокія, — зазначыла дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух. — Варта таксама падкрэсліць, што роля дзяржавы ў падтрымцы розных беларускіх выдавецтваў вельмі вялікая. Нават нягледзячы на тое, што нейкіх прамых бюджэтных укладанняў недзяржаўныя ўстановы не атрымліваюць, але як відавочца працэсаў, што адбываліся ў кнігавыданні краіны цягам 20 год, я магу сцвярджаць, што дзяржава падтрымлівае і адны, і другія выдавецтвы, заўважаючы праекты сацыяльнай значнасці. Сёння дзяржава фінансуе выпуск кніг у дзяржаўных установах, але я чую ад многіх чыноўнікаў: наблізжаецца час, калі будзе падтрымлівацца менавіта сам праект, які мае нацыянальную значнасць, незалежна ад таго, хто ім займаецца.

Удзельнікі «круглага стала» — пісьменнікі, навукоўцы, музычныя і тэатральныя дзеячы — выказвалі розныя думкі, што закранаюць актуальныя пытанні галіны. Як данесці сваю кнігу да чытача, зрабіць яе сапраўды любімай многімі пры ўмове, што толькі 15 працэнтаў (па разліках расійскіх спецыялістаў) з усіх выдадзеных у

*Фота Наталлі Купрэвіч*



*Адам Мальдзіс, Ліліяна Анцух і мадэратар сустрэчы Аляксандр Сарна за «круглым сталом» падчас абмеркавання новага выдавецкага праекта.*

краіне трапляе ў кнігарні і бібліятэкі? Як спалучыць у кнізе вострым сюжэт, адказы на жыццёвыя пытанні, пры гэтым дастукацца да душы чытача і прымусіць яго думаць? Як дабрацца на сустрэчу са школьнікамі, якія ніколі ў жыцці не бачылі жывога беларускага пісьменніка, і даехаць да школ, дзе імпрэзы з аўтарамі не ладзіліся ўжо больш як 20 гадоў? Як зрабіць выхад кожнай новай кнігі падзеяй і звярнуць на яе ўвагу СМІ, тым самым прывабіўшы погляды патэнцыяльных чытачоў?

Сёння гэтыя пытанні — на мяжы рытарычных. Але, думаецца, варта шукаць адказы, варта думаць пра рэалізацыю новых праектаў. Дарэчы, ідэю аднаго выдатнага кніжна-гістарычнага брэнда прапанаваў падчас імпрэзы вядомы даследчык, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс:

— Усё пачалося гадоў 20 таму. Тут, у Доме літаратара, ішоў канцэрт ансамбля «Кантабіле», куды мы прыйшлі з Уладзімірам Караткевічам. Гучалі творы французскага, італьянскага, рускага барока. Караткевіч запытаўся: «Хіба няма беларускага барока?»

Я адказаў, што ёсць, і мне ўдалося ў Кракаве ў Трэбніку XVII ст. адшукаць частку рукапіса з нотамі. Гэта песенная інтымная лірыка таго часу. Я пайшоў да музыкаў і распавёў ім пра рукапіс, што знаходзіцца ў Трэбніку, які калісьці належаў Астрамечаўскай царкве. Царква ў Астрамечаве ў XVII ст. была адна — каля Брэста. Была ў той час яшчэ адна вёска Астрамечава, непадалёк ад Полацка. Музыкі прыйшлі да высновы: ніхто не ведае Астрамечава, а калі вы хочаце, каб гэтая музыка выконвалася, то назавіце рукапіс «Полацкім сшыткам». Караткевіч мне параіў пагадзіцца з такой недакладнасцю толькі дзеля таго, каб музыка заняла сваё месца ў культуры.

Прайшло 20 гадоў, і сёння многія калектывы выконваюць кампазіцыі з «Полацкага сшытка». Але ўсё ж такі мяне не пакідае ўспакой сумленне. 500-годдзе Астрамечава, што будзе адзначацца праз 2 гады, а таксама рашэнне мясцовых актывістаў зрабіць гэты рукапіс сваім брэндам, даюць магчымасць выправіць гэтую гістарычную недакладнасць.

Адам Восіпавіч прапанаваў у бліжэйшы час упершыню выдаць гэты помнік XVII ст. — ужо з правільнай назвай «Астрамечаўскі рукапіс» — разам са словамі (іх пазней удалося знайсці ў Аршанскім зборніку XVII ст.) як першы на ўсходнеславянскіх землях зборнік свецкай музыкі і песняў. Думаецца, выдавецтва «Чатыры чвэрці» цалкам здольнае рэалізаваць гэты значны для ўсёй Беларусі праект, а таксама ажыццявіць мноства цікавых задумак.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Музыка з даўніны

**Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі запрасіла аматараў музыкі і ўсіх, хто зацікаўлены нацыянальнай культурнай спадчынай, на прэзентацыю выдання «Феномен белорусского музыкального искусства XVII века». Аўтар кнігі — доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры правазнаўства Віцебскага філіяла Міжнароднага ўніверсітэта «МІТСО» Людміла Сідаровіч.**

Манаграфія прысвечана вывучэнню рукапіснага нотнага зборніка пад назвай «Полацкі сшытак», унікальнага помніка культуры XVI — XVII стагоддзяў. «Музычнае мастацтва Беларусі эпохі барока яскрава адлюстравалася ў двух рукапісах — «Полацкім сшытку» і «Псалтыры цара Давіда», перакладзеным Сімяонам Полацкім. Адной з мэт майго даследавання стала параўнанне гэтых твораў», — распавяла Людміла Сідаровіч.

Цікава, што «Полацкі сшытак», які ствараўся на Беларусі, захоўваецца цяпер у бібліятэцы Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве — помнік музычнага мастацтва давялося вывезці з акупіраванай краіны падчас Другой сусветнай вайны. На шчасце, дзякуючы вядомаму беларускаму літаратуразнаўцу Адаму Мальдзісу мікрафільм з копіяй «Полацкага сшытка» знаходзіцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі.

Паводле Людмілы Сідаровіч, сучасную назву «Полацкаму сшытку» даў ансамбль Белдзяржфілармоніі «Кантабіле», які стаў і першым выканаўцам старадаўняй музыкі. Нотны зборнік мае 65 лістоў, больш як 200 твораў розных вакальных і інструментальных жанраў — кантаў, танцаў, п'ес, рэлігійных і свецкіх песень. Танцы, дарэчы, дамінуюць і складаюць пераважную большасць усіх кампазіцый, прызначаных для выканання на самых розных інструментах — ад клавішных да струнных. Тэксты, якія сустракаюцца ў зборніку, напісаны на трох мовах: лацінскай, стараславянскай і старабеларускай.

«Псалтыр цара Давіда», у сваю чаргу, з'яўляецца маштабным музычным цыклам з багатым жанравым зместам. Сярод вакальных твораў, размешчаных у ім, псалмы рознага кшталту: хвалебныя, танцавальныя, малітоўныя, філасофскія.

Людміла Сідаровіч звярнула ўвагу на тое, што «Полацкі сшытак» і «Псалтыр цара Давіда» ў культуры свайго часу былі наватарскай з'явай, бо ўпершыню прапанавалі выканаўцам і слухачам шматгалосную музыку.

«Прааналізаваць музычны твор XVI — XVII стагоддзяў даволі складана, бо ноты мелі розныя метады запісу. Але Людміла Сідаровіч дзякуючы цярпенню і прафесіяналізму справілася з гэтым паспяхова, больш таго — яна зразумела музыку, пачула яе», — лічыць доктар мастацтвазнаўства, прафесар, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вера Пракапцова.

Да імпрэзы супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі падрыхтавалі выстаўку «Старонкі гісторыі музычнай культуры Беларусі». На экспазіцыі былі прадстаўлены рарытэтныя дакументы XVII — XXI стагоддзяў, у тым ліку рэдкія старадрукі, «сучаснікі» «Полацкага сшытка», а таксама працы айчынных і замежных даследчыкаў, прысвечаныя музычнай спадчыне Беларусі. На некаторых асобніках можна было ўбачыць пячаткі і рукапісныя пазнакі вядомых дзеячаў гісторыі і культуры: беларускага гісторыка, этнографа, фалькларыста і эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага, расійскага літаратуразнаўца, кнігазнаўца Паўла Беркава, беларускага літаратуразнаўца і гісторыка Адама Мальдзіса.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Шпионы предпочитают джаз

Детективная трилогия, вышедшая в издательстве «АСТ» при участии ООО «Харвест», — творение русского писателя, журналиста, востоковеда Дмитрия Косырева, обладателя колоритного псевдонима — Мастер Чэнь.




Шпионские детективы про любовь, насыщенные, по закону жанра, событиями, именами и убийствами, объединяет главная героиня. Амалия де Соза — молодая португалка с экзотическим цветом кожи, администратор кабаре «Элизе», где от заката до рассвета играют джаз, а по иронии судьбы — независимый детектив и безнадёжно влюбленная молодая леди.

Её образ в сознании писателя — не фантазия, а впечатление, которое оставил голос Амалии Родригеш, певицы, «королевы фаду», являющейся для португальцев тем же, чем Эдит Пиаф для французов. Переселение душ? Может быть, ведь литература, по словам Дмитрия Косырева, — не что иное, как магия. Вот и получается, что характеры настоящей и литературной Амалий совпадают, будто отражение в зеркале.

Со вторым главным героем всё было не так поэтично и просто. «Я не видел его лицо, не слышал его голоса, молодой человек просто отказывался становиться реальным», — откровенничал Дмитрий Косырев в послесловии к первой книге. Всё это безобразие длилось до тех пор, пока в нужный момент под его рукой не оказались фотографии влюблённого в Индию Джорджа Харрисона, который «по-хулигански» держал сигарету в ладони, склонив голову набок. В этот момент и появился на свет Элистер Макларен — тот самый Шпион из Калькутты.

Место действия первой книги **«Амалия и белое видение»** — колониальная Малайзия конца 1920-х годов, остров Пенанг, город Джорджтаун. Это место Мастер Чэнь изучил до мелочей, до последней улицы и скамейки. «Когда пишешь исторический роман о событиях, которые происходили в той или иной точке земного шара, очень важно поехать туда и потрогать предметы, существовавшие в описываемую эпоху. Я так всегда делаю, — признаётся писатель в одной из своих лекций о магии литературы. — У нас сейчас время халтуры вместо исторического романа, когда авторы считают, что можно делать всё приблизительно. А у меня — предельная точность».

Однажды он увидел домик со странным стеклянным шаром на крыше, «маленьким, украшенным фарфоровой лампой балконом, с которого видна золотая игла ступы буддийского храма», где потом и поселилась его Амалия. Следуя американской традиции, автор утверждает, что любые совпадения имён, фактов биографий или предметов обстановки в книге случайны.

Но в то же время, хитро улыбнувшись, подчёркивает, что все описания составлены из миллионов реальных кусочков, «склеенных» воедино так, что сам Мастер Чэнь уже не знает, что правда, а что — вымысел.

«Амалия и белое видение» лишена лирических вступлений, на арене первых страниц — смертельный номер со змеями в Храме Чистого Облака. К счастью, заканчивается он вполне мирно. Амалия де Соза напрасно пытается напугать Элистера Макларена, коренного англичанина, живущего в Индии, этнографа и полицейского в одном лице. Вопрос о том, зачем ей это нужно, впрочем, остаётся открытым до самых последних глав произведения.

Книга напоминает сказочную башню с яркими балкончиками и колоннами слов, а обилие фактов заставляет заново браться за учебники истории и географии. В загадочное убийство, с которого начинаются приключения, вмешиваются… китайские палочки для еды!




Погрузившись в чтение, понимаешь, что слова превращаются в ароматы и звуки. Писатель, словно волшебник, может превратиться в гида по восточной и индийской кухням, а через пару минут — стать блестящим музыкантом, чувствующим тончайшие ритмы джаза. Кто бы мог подумать, что Ми Ява — это толстая жёлтая лапша под острым томатным соусом, Попиа — невесомые хрустящие золотистые блинчики, а «дёрганый чай» — напиток, который не размешивают ложечкой, а переливают на расстоянии вытянутых рук.

Свои произведения Мастер Чэнь пишет благодаря музыке. Потому что музыка, по его словам, — это тональность книги, голоса ее героев, их чувства, обрывки, из которых всё возникает: «На тротуаре внизу зазвучат женский смех, стук каблуков. Из моего окна им ответили скрипка и кларнет, ласкающие друг друга, и клавиши, которых еле касаются пальцы».

Атмосфера романов Мастера Чэнь напоминает перекрёсток цивилизаций в лучших традициях Самюэля Хантингтона. С одной стороны — азиатский мир, где господствуют китайские кварталы, море качающихся чёрных голов, шлёпанье босых ног, стук деревянных сандалий, серебряные колесницы индийских богов и ароматы: то ли мускатного ореха, то ли сандаловых опилок. А с другой — мир западный, с португальскими парусными кораблями, британскими теннисными кортами и отелями «только для белых». Хотя для автора деление мира на Запад и Восток очень условно, это, скорее, эффектное литературное обрамление.

Кстати, псевдоним взят по вполне объяснимой причине. К тому моменту, когда автор начал писать романы, он уже был довольно известным международным журналистом, в том числе политическим обозревателем РИА «Новости», колумнистом «Новой газеты». Поэтому, чтобы избежать путаницы в интернете, Дмитрий Косырев и перевоплотился в китайского Мастера Чэня, к слову, уникального




в русской литературе. В одном из интервью он признался, что подпись «Чэнь» стимулирует его писать лучше, чем раньше, хоть это и очень простая, «анонимная» фамилия, которая ничего не означает.

Во второй книге трилогии **«Амалия и генералиссимус»** на карту событий поставлены судьбы империй и государств, а цена неверных поступков может стать смертельно опасной. Героиня берётся за очередное расследование: поиски исчезнувшего в Куала-Лумпуре агента разведки китайского правительства. При этом мысли и чувства Амалии де Соза заняты совсем другим. Она влюблена, день и ночь грустит. Разрядить обстановку помогает персонаж по имени Тони, (будучи немым в первой книге, во второй он вдруг заговорил), и верная подруга Магда, «богиня» игры на саксофоне.

Завершается череда историй об очаровательной португалке и мировых политических катаклизмах книгой **«Амалия и золотой век»**. О чём она? По-прежнему о шпионах, правда, действие происходит в Маниле, столице будущих независимых Филиппин, зимой 1935 — 1936 годов, когда мир ясно ощущает неизбежную близость Второй мировой войны. Операция британской разведки по выявлению японских шпионов тонко вплетается в канву сюжета. Колорит романа не теряет своей яркости, утопая в музыке, танцах и вкусной еде. Словом, речь снова идет о любви, глобальной политике и прочих «неприятностях». Всё это не отменяет того факта, что текст Мастера Чэня — по-научному достоверное историческое исследование. Последний роман позволяет переосмыслить две предыдущие книги, понять, насколько другим был мир в эпоху, которая хрустальным мостом протянулась между двумя мировыми войнами, раз и навсегда изменившими жизнь человечества.

**Мария ВОЙТИК**

# Песня длиною в жизнь

Биография Муслима Магомаева, народного артиста СССР, загадочного и оригинального, открытого и дружелюбного человека, вышла в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест».




«Если бы мне второй раз дали жить на этом свете, я бы всё прожил точно так же… Только не курил бы», — эти слова, вполне серьёзные, но ироничные, послужили эпиграфом для книги. А материалы, в частности, цитаты, были заимствованы редактором-составителем из произведения Муслима Магомаева «Живут во мне воспоминания», фильмов, телепередач и интервью с участием певца.

Книга будет познавательна для тех, кому Муслим Магомаев известен лишь по записям песен, потому что раскрывает не только стиль исполнения, но и характер артиста. Он умело владел своим голосом, диапазон которого позволял шагнуть далеко за пределы обычного репертуара. Всегда элегантный, статный, в безукоризненном чёрном костюме, певец напоминал принца, покоряющего своей мощной энергетикой восторженную публику.

Стиль его пения всегда был академически идеален, но богат экспрессивными оттенками — торжественности, строгости, сентиментальности, меланхолической грусти. Филигранная подача звука не мешала ему чутко вслушиваться в настроение каждого произведения, ощущать его всей душой.

Муслим Магомаев был образованным, культурным и благородным человеком, настоящим джентльменом. В конце книги автор приводит его слова: «Не нужно скупиться на добро. Просто надо приучить себя к тому, что поступать по-доброму важно и для самого себя, для собственной души. Добро, говорят, рассеивается. Зло бумерангом возвращается к источнику. Короче, делаешь добро — делай. Отзовётся — благо. Не отзовётся — так тому и быть…»

Всемирная известность пришла к нему в 1962 году, после выступления в Кремлёвском Дворце съездов на заключительном концерте фестиваля азербайджанского искусства. Впрочем, в аннотации книги говорится о том, что его, ещё юношу, даже не окончившего консерваторию, Большой театр дважды приглашал стать солистом, но певец отказался. Сольные концерты в СССР и за рубежом, премии, гастроли, сочинение музыки, постоянно расширяющийся репертуар (более 600 произведений — от эстрады до оперных арий и даже роковой *Yesterday Beatles*), съёмки в фильмах — это путь человека, который познал цену и побед, и поражений.

«Я присутствовал на многих концертах, где пел Муслим Магомаев, и ни разу не было случая, чтобы ведущий успевал назвать полностью имя и фамилию артиста. Обычно уже после имени «Муслим» раздаются такие овации, что, несмотря на самые мощные динамики и все старания ведущего, фамилия «Магомаев» безнадёжно тонет в восторженном гуле. К этому привыкли. Как привыкли к тому, что уже одно имя его давно стало своеобразной достопримечательностью нашего искусства... А ещё к тому, что любая оперная ария, любая песня в его исполнении — это всегда ожидаемое чудо», — писал в 1980 году Роберт Рождественский. При этом Муслим Магомаев никогда не подвергался «звёздной» болезни, сохранял скромность — истинную, не показную, требовательно оценивал самого себя.

Прочитав биографию, понимаешь, что слава, наряду с легендами, сплетнями, армией поклонниц и океаном цветов, не была в его жизни главной. Островом спасения и человеческого счастья для Муслима Магомаева стала любовь к певице Тамаре Синявской. Один известный врач сказал: если бы певец не курил, он всё ещё был бы жив… Он и так жив — в сердцах своих почитателей.

**Мария ВОЛКОВИЧ**

*Унікальны праект*

# На калясніцы мастацтва

**У выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет кніга вядомага мастацтвазнаўцы Барыса Крэпака пра Уладзіміра Пракапцова, якая мае паэтычную назву «Нястрымная квадрыга жыцця».**

Квадрыга — двухколавая калясніца ў старажытных рымлян, запрэжаная чатырма конямі. Яна выкарыстоўвалася ў час трыумфальных шэсцяў і спаборніцтваў, урачыстых выездаў. Якія толькі адухоўленыя значэнні не надавалі ёй паэты і пісьменнікі! Але «квадрыга жыцця», ды яшчэ нястрымная... Сказана больш, чым сказана. Гэта тое, што варта лічыць паэзіяй. Зрэшты, ці можна гаварыць пра выяўленчае мастацтва без паэтычнага ўспрымання? Да таго ж і той, каму прысвечана кніга, і той, хто пісаў яе, — паэты па светаадчуванні. У прадмове да выдання аўтар неяк між іншым тлумачыць назву кнігі: чатырох коней прыгаданай калясніцы атаясамлівае з чатырма іпастасямі У. Пракапцова. Музейны адміністратар, мастак, мастацтвазнаўца і грамадскі дзеяч.

Але перш за ўсё аўтар прадстаўляе чытачам своеасаблівую візітку Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, якім ужо на працягу 15 гадоў кіруе Уладзімір Іванавіч. Больш як 27 тысяч твораў фарміруюць дванаццаць разнастайных калекцый. Дырэктар умее ашчадна, перспектыўна, па-дзяржаўнаму карыстацца гэтым цяпер ужо спрадвечным багаццем. Дзякуючы яго намаганням 5 снежня 2006 года залы новага корпуса музея прынялі першых наведвальнікаў.

Чытаю і перачытваю гэтую багата, з густам праілюстраваную кнігу і не магу пазбыцца думкі, што створаная яна па ўсіх класічных канонах жывапіснай карціны. А карціна ў адрозненне ад эцюда ці эскіза вызначаецца завершанасцю. Менавіта такой якасцю і прываблівае разнажанравы, сабраны ў адзінае, шматгалосы аповед. Здаецца, нішто з жыццёвых акалічнасцей не застаецца па-за ўвагай таленавітай дапытлівасці аўтара. Мы даведваемся, што сярод любімых мастакоў Уладзіміра Іванавіча — В. Бялыніцкі-Біруля, В. Цвірко, Л. Шчамялёў, А. Кішчанка, А. Кашкурэвіч, Г. Паплаўскі, С. Гарбунова, А. Анікейчык, В. Сяроў, І. Левітан, М. Урубель, Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Мікеланджэла, Мадзільяні... Што ён прыхільнік рускага рэалізму XIX — пачатку XX стагоддзяў, імпрэсіяністаў і постімпрэсіяністаў, беларускага іканапісу і драўлянага разьбярства...

Ці адбіваюцца гэтыя прыхільнасці на творчасці самога Уладзіміра Іванавіча? «Канечне, Пракапцоў — рэаліст у жывапісе, — слушна сцвярджае аўтар кнігі, — але яго рэалізм рамантычны. У яго мастацтве няма места для спрэчак пра тое, аб'ектыўнае яно ці суб'ектыўнае: яно і тое, і іншае, рознае — праўдзіва адлюстроўвае жыццё... А яшчэ ён нават у эцюдах, у тым ліку эксперыментальных, спрабуе зазірнуць у сябе, але не проста дзеля самалюбавання, а ў сувязі з тым, каб праз пластыку, колер, рытміку, прастору «абазначыць» свае суб'ектыўныя адносіны да таго, што з'яўляецца на яго палатне».

Вось меркаванне народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва: «Віцебскія мары аб Парыжы», бадай, адна з лепшых карцін У. Пракапцова. Яна створана па законах умоўна-сцэнічнага відовішча. Толькі ў межах такой умоўнасці можа цалкам раскрыцца вобразная сутнасць гэтага твора. Заўважце, як на палатне вытанчана пакасіліся ў прасторы сусвету звязаныя адзінай духоўнай ніццю Эйфелева вежа і Віцебская ратуша і як арганічна ўпісаліся ў кампазіцыю фігуры Мастака і яго агаленай Музы, — казачна-фантастычнае ап'яненне святам жыцця... Канечне, ён перш за ўсё пейзажыст. Нейкі, як мне здаецца, сумны рамантык...»




У Барыса Крэпака ёсць усе падставы весці аповед, прыгадваючы сусветна вядомых мастакоў, паэтаў, пісьменнікаў. Кампазіцыйнае шматгалоссе кнігі застаецца вельмі натуральным, бо таленавіта акцэнтуецца.

Але ці толькі пра прызванне і прызнанне гэта кніга? Барыс Крэпак задае свайму герою самыя спавядальныя пытанні: «Вашы ўдачы?», «Вашы няўдачы?», «Ваш характар?», «Ваша ўяўленне аб шчасці?», «Самае вялікае расчараванне?», «Дзе б вы хацелі правесці свой апошні дзень жыцця?» А ёсць яшчэ не менш значныя: «Што для вас мастацтва ў яго вышэйшым разуменні?», «Што такое, на вашу думку, талент?».

Адказвае Уладзімір Іванавіч ёміста, па-філасофску мудра. Адказваюць, не ведаючы гэтых і іншых пытанняў, тыя, хто далучаны аўтарам да калектыўнай размовы. Трэба дадаць, што выданне кнігі прымеркаванае да 60-гадовага юбілею У. Пракапцова, які на пытанне пра яго адносіны з узростам адказаў адным словам: «Рабочыя...»

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

# Цуд стварылі... злодзеі

**Калі з Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі ў Літаратурны музей М. Багдановіча была перададзена частка архіва Адама Ягоравіча Багдановіча, бацькі паэта, для навуковых супрацоўнікаў, якія даследавалі матэрыялы архіва, пачалі адкрывацца новыя таямніцы, звязаныя з сям'ёй Багдановічаў.**

Так, падчас экскурсіі на асноўнай экспазіцыі Літаратурнага музея М. Багдановіча ўвага наведвальніка звычайна звяртаецца на літаграфію вядомай карціны Рафаэля Санці «Мадонна з дзіцем», якая належала сям'і Багдановічаў. Пра музейны прадмет вядомая наступная легенда.

Гэтую гравюру Адаму Багдановічу калісьці падарыў Максім Горкі: у той час Адам Ягоравіч быў жанаты з сястрой жонкі вядомага рускага пісьменніка Аляксандрай Волжынай. Паводле ўспамінаў Дзіядора Дзябольскага, сябра Максіма Багдановіча, сюжэты твораў сусветнага мастацтва, а дакладней, закранутыя ў іх філасофскія тэмы, адлюстроўваліся ў творах Максіма. Да прыкладу, сюжэт графічнай работы «Хрыстос, які пастукаўся» (яна таксама захоўвалася ў доме Багдановічаў) натхніў на напісанне апавядання «Музыка», «Апокрыф», «Апавяданне аб іконніку і залатару». Геліягравюра карціны Рафаэля «Мадонна з дзіцем», якая вісела ў кабінеце бацькі над пісьмовым сталом, наводзіла паэта на філасофскае асэнсаванне ролі жанчыны ў жыцці.

У 1918 годзе падчас белагвардзейскага мяцяжу ў Яраслаўлі дом Багдановічаў разам з усёй маёмасцю быў знішчаны пажарам. Адам Ягоравіч у гэты час знаходзіўся за горадам — там было больш спакойна. Калі ён вярнуўся на папялішча свайго дома, то знайшоў не кранутую агнём папяровую геліягравюру «Мадонна з дзіцем».

Адам Багдановіч з павагай ставіўся да ўсяго, што выходзіла з-пад пяра, таму на працягу жыцця збіраў і захоўваў перапіску. У яго архіве знойдзены дублікат заявы ў паліцэйскае ўпраўленне, дзе Адам Ягоравіч паведамляе, што пасля таго, як ён выехаў за горад (са слоў сведак), кватэра Багдановічаў была разрабавана: суседзі бачылі, як марадзёры вывозілі маёмасць падводамі. Адам Ягоравіч склаў спіс прадметаў, што зніклі і пасля выпадкова знаходзіліся ў розных мясцінах горада. Тады ён выказаў меркаванне, што спачатку злодзеі сярод іншай маёмасці забралі і геліягравюру «Мадонна з дзіцем», але, не знайшоўшы ў ёй каштоўнасці, проста выкінулі на папялішча.

Так праз рукі злодзеяў, якія зберагли геліягравюру ад агню, адбыўся цуд. З тых часоў падарунак Максіма Горкага з асаблівым трапятаннем захоўвалі ў сям'і Багдановічаў, а пасля стварэння Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Мадонна з дзіцем» трапіла ў фонды і стала адным з самых каштоўных экспанатаў.

**Людміла САСОНКА**

# Мілы кут дарагой Беларусі

**Вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат многіх літаратурных прэмій, актыўны грамадскі дзеяч Міхась Пазнякоў шмат сваіх твораў, паэтычных цыклаў і кніг прысвяціў роднай Быхаўшчыне. У вершах і прозе творца ўслаўляе родны край, Радзіму, спявае гімн любімай старонцы. Таму і не дзіўна, што менавіта яму была даверана вельмі адказная справа — укладанне кнігі «Быхаўшчына літаратурная», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Беларусь літаратурная» (аўтары праекта У. Мачульскі, В. Праўдзін і В. Шніп, рэдактар Н. Філіповіч). Зборнік атрымаў назву "У Дняпра на магутным плячы". Гэта першы радок верша, які ўкладальнік прысвяціў Быхаву.**

Адкрываецца ж гэтае ілюстраванае выданне прадмовай Дзмітрыя Калеева, старшыні Быхаўскага раённага выканаўчага камітэта. Кіраўнік аднаго з самых вялікіх раёнаў нашай краіны падкрэслівае, што старажытны горад Быхаў, заснаваны ў 1370 годзе, з кожным годам маладзее, а яго жыхары ўзбагачаюць гэты край матэрыяльна і духоўна.

Быхаўшчына ўзрасціла шэраг паэтаў і празаікаў, літаратуразнаўцаў і публіцыстаў, якія праслаўлялі раней і праслаўляюць сёння сваю малую радзіму, нашу родную Беларусь у сваіх творах. Сведчанне гэтаму — змешчаныя ў зборніку творы, напісаныя ў розных жанрах: паэзія, проза, публіцыстыка, літаратуразнаўчы артыкул.

Першы раздзел кнігі называецца «Вякоў мінулых гонар і святло». Тут апублікаваны творы са спадчыны беларускіх асветнікаў, лёс якіх быў звязаны з Быхаўшчынай, — пісьменніка, філосафа і таленавітага лінгвіста эпохі Барока Мялеція (Максіма) Сматрыцкага (каля 1575 — 1633 год) і філолага, літаратара і асветніка эпох Рэнесансу і Барока Лаўрэнція Зізанія ў перакладзе доктара філалагічных навук прафесара Івана Саверчанкі. У зборнік «У Дняпра на магутным плячы» ўключаны і фрагменты «Баркулабаўскай хронікі» — шэдэўра даўняга пісьменства Беларусі.

Пісьменнік, гісторык, краязнавец Эдуард Карніловіч распавядае пра вучонага, літаратара, лексікографа, фалькларыста Івана Насовіча, які нарадзіўся ў Быхаўскім павеце.

«Выток і натхненне Радзімы» — другі раздзел зборніка. Сюды ўвайшлі творы ўраджэнцаў Быхаўшчыны — польскага і беларускага паэта Яна Аноўкі, празаіка і перакладчыка Івана Баранкевіча, празаіка і публіцыста Адама Дзмітрыева, празаіка Якава Ільічова. Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з творамі празаіка, публіцыста, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча культуры Беларусі Барыса Стральцова і літаратурна-мастацкім нарысам пісьменніка Віктара Гардзея пра чалавека, які стаў «легендай беларускай журналістыкі». Цікавыя ўспаміны ўраджэнца Быхаўскага раёна, выдатнага вучонага-філолага, літаратурнага крытыка, даследчыка, тэкстолага, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Міхася Мушынскага, а таксама артыкулы пра яго творчасць, якія напісалі літаратуразнаўцы Міхась Кенька і Вячаслаў Рагойша.

У гэтым жа раздзеле — проза і паэзія Міхася Пазнякова, творы Міколы Макарцова, Яўгена Сацікава ды іншых сучасных аўтараў.

Раздзел пад назвай «Стаў край лёсам і сцежкай», складаюць творы пісьменнікаў, для якіх Быхаўшчына стала роднай і блізкай. Прадстаўлены творы вядомага празаіка і драматурга Васіля Ткачова, які вучыўся ў Ісканскай школе, друкаваўся ў мясцовай газеце. З успамінамі пра працу ў Быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя» і сваімі творамі выступаюць Раіса Баравікова і Міхась Сліва. Сярод аўтараў гэтага раздзела — Таццяна Мушынская, Валянцін Барысевіч, Змітрок Марозаў і Мікола Леўчанка.




Кніга, несумненна, будзе карыснай для настаўнікаў, вучняў, студэнтаў, прынясе радасць усім, хто шануе літаратуру.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

# «Нявеста» не падрасла ці «жаніх» не пагаджаецца?

Як правільна сфарміраваць культурную вулічную прастору гарадоў? Як прапагандаваць свету айчынных мастакоў і іх працы? Чаму беларуская мастацкая фатаграфія практычна не мае статусу? Гэтыя, а таксама многія іншыя пытанні абмяркоўваліся ў Інстытуце культуры Беларусі падчас «круглага стала» на тэму «Мастак і рынак у сучаснай сацыякультурнай сітуацыі».



Фота Кастуся Дробава

*Падчас «круглага стала».*

Распачала гутарку сацыёлаг **Валянціна Іўчанка** словамі вядомага нямецкага філосафа Марціна Хайдэгера, які лічыў, што рацыяналістычны (тэхніка-эканамічны) тып пазнання грамадства досыць абмежаваны. Будучыня належыць мастакам, у якіх закладзены інтуіцыя, адоранасць, фантазія, высокі парог адчувальнасці і высокая эмацыянальнасць. У гэтым плане да месца апынуліся і словы Паўла Фларэнскага, рускага праваслаўнага святара, рэлігіёзнага філосафа: «Бог нам даў здольнасць думаць. І да гэтай дзейнасці трэба падыходзіць вельмі беражліва. Мы не выбіраем эпоху, грамадства, сацыякультурную сітуацыю, таму трэба вельмі адказна ставіцца да часу жыцця і працаваць творча ў любой сітуацыі. Бо сапраўднага творцу ніхто не можа абмежаваць, ён заўсёды вольны».

— Візуалізацыя культуры сёння з'яўляецца тэндэнцыяй развіцця грамадства. Тут мастакам належыць вельмі важная роля. У амерыканскіх сацыёлагаў ёсць такое паняцце, як «індэкс багемы». Яны лічаць, што колькасць і крэатыўнасць багемы вызначае ўзровень развіцця гарадоў. Калі ёсць такое крэатыўнае асяроддзе, то яно змяняе атмасферу ў грамадстве, развівае культурную індустрыю — трансфармуе жыццё. У выніку гарады становяцца прыцягальнымі не толькі для жыхароў краіны, але і для замежнікаў, — адзначыла В. Іўчанка. — Цяпер для Беларусі гэта вельмі актуальна: набліжаецца Чэмпіянат свету па хакеі. І тут галерэі маглі б рабіць прэзентацыі, прадаваць карціны, сувенірную прадукцыю і выходзіць такім чынам на знешні рынак. Існуюць праблемы і з прэзентацыяй айчынных мастакоў. Падчас дзеяння праекта «Горад і мастак. Малевіч», «Плот» мы праводзілі апытанні мінчан і высветлілі, што асноўная маса людзей вельмі пазітыўна ставіцца да такіх акцый. Але пры гэтым было заўважана, што ў культурных праектах прапагандуюцца работы ўсім вядомых мастакоў, а маладыя творцы застаюцца незаўважанымі. Паглядзім на досвед Мельбурна: урбанізаваная сталіца за невялікі перыяд ператварылася ва ўтульны горад з удала размеркаванымі арт-пляцоўкамі.

У сценах Нацыянальнага мастацкага музея мы праводзілі апытанне замежных турыстаў, наведвальнікаў з дыпламатычнага корпуса, і аказалася, што яны не чакалі ўбачыць такую высокую прафесійную мастацкую школу ў Беларусі. Ім вельмі спадабалася, як прадстаўлены 1920-я гады, у прыватнасці, прывабіў партрэт «Марк Шагал» (1914) Юдэля Пэна, вельмі зацікавілі працы Язэпа Драздовіча, а таксама наша дэкаратыўнае мастацтва і кераміка. Пры гэтым у іх былі заўвагі да экспазіцыі, прысвечанай сучаснаму беларускаму мастацтву: прадстаўлены карціны толькі 1980-х гадоў, няма новых кірункаў. Наведвальнікі з-за мяжы выказалі жаданне пазнаёміцца з сучаснай беларускай фатаграфіяй, з калекцыянерамі, аўкцыённымі дамамі, наогул з сучасным беларускім мастацтвам. Вядома, мы раілі аднайменны музей, але ён працуе ў сістэме галерэі — пастаяннай экспазіцыі там няма. Таму і ўзнікаюць пэўныя праблемы з прэзентацыяй сучаснай культуры. Не задавальняла турыстаў і сувенірная прадукцыя. На іх думку, нават беларуская скульптура і архітэктура маглі быць прадстаўлены ў макетах. Вось шэраг хвалюючых пытанняў, якія трэба вырашаць.



Фота Кастуся Дробава

*Дырэктар галерэі «Славутасць» Алена Спірыдонава і дырэктар галерэі «Палац мастацтва» Аляксандр Зінкевіч.*

Пасля рэй павяла мастацтвазнаўца **Таццяна Бембель**:

— Гэта называецца «ёсць "нявеста", але няма "жаніха"»... Ёсць дасягненні ў галіне культуры і мастацтва, якія можна прадаць. А «жаніх», пакупнік, ніяк не пагодзіцца сказаць «так». Дык што ж нагул запатрабавана ў сучасным беларускім мастацтве?

Дырэктар галерэі народнага мастацтва «Славутасць» **Алена Спірыдонава:**

— Беларускім творцам трэба пачынаць актыўную дзейнасць па мадэрнізацыі нацыянальных сувеніраў. Ні адзін дырэктар прадпрыемства не стане дарыць свайму партнёру добра зробленую кітайскую талерку: гэта сорамна! Ён возьме каляровы беларускі посуд, нешта з тканіны або керамікі. У нас ёсць пакупнік — гэта перш за ўсё не турысты, а менавіта арганізацыі, якім патрэбна беларуская рэч ручной працы і пры гэтым — не вельмі дарагая. На жаль, у беларусаў, якія выязджаюць за мяжу, выпрацавалася клішэ — у падарунак сваякам і знаёмым мы адвозім гарэлку, скрынку цукерак, а ў лепшым выпадку — льняны выраб або саламяную ляльку. Трэба не адкладваючы прапаноўваць грамадству новае, рэкламаваць.

— Гэта да слова пра дробны сегмент, але ў нас ёсць і буйныя рэчы, пра якія цікава пагаварыць. Ёсць спецыялісты, якія могуць распісваць сцены, рабіць выдатныя вітражы, інсталяцыі, скульптуры і гэтак далей, — выказаў меркаванне дырэктар Рэспубліканскай мастацкай галерэі «Палац мастацтва» **Аляксандр Зінкевіч**. — Напрыклад, маладыя монументалісты занятыя на два гады наперад, ні ў кога не замовіць вітраж, усе робяць прыватныя працы. Галерэям іх не перахапіць! Што да камбінатаў, то там прыватных заказаў пакуль не прадбачыцца: кошт вырастае практычна ўдвая, не кожны адужае! Толькі невялікія структуры могуць быць праваднікамі манументалістаў для прыватнай замовы.

Хвалюючае пытанне — кансалідацыя нацыянальных галерэй.

— Больш цесная сувязь дасць новы штуршок у працы, — лічыць арт-дырэктар мастацкай галерэі «Канцэпцыя» **Таццяна Лявонцьева**. — Мы ўсе раз'яднаныя. Можа, варта стварыць савет галерэй або кіруючы орган? Раней кожнаму вандроўнаму калекцыянеру даваўся пэўны спіс музеяў, галерэй, салонаў і іншых культурных месцаў. А цяпер яны самі ўсё шукаюць, знойдуць цыбе — добра, а могуць і не знайсці! Чаму б кіруючым органам не расставіць пэўныя прыярытэты перад інтэрнэтам у дачыненні да мастацтва?

Дырэктар галерэі «Канцэпцыя» **Лідзія Страх** распавяла пра продаж папулярных твораў мастацтва:

— Калі мы адкрывалі галерэю, у нас было ўсё — і малая скульптура, і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, але ў канчатковым выніку застаўся жывапіс. Калекцыянерам цікавыя ў асноўным пейзажы і нацюрморты, партрэт амаль не прадаецца, нават калі гэта зборны вобраз, ён будзе «завісаць». Добра «ідуць» Л. Шчамялёў, А. Бархаткоў, А. Бараноўскі і інш. Мы працуем па прынцыпе: прыйшоў пакупнік — не павінен сысці без карціны, усё раскажам і пакажам.

— Што да масавага пакупніка... Да нас прыходзяць выпадковыя наведвальнікі, каб паглядзець на прыгожыя рэчы, пабываць у прыемнай атмасферы, даведацца, якія мастакі сёння выстаўляюцца, — прызнаецца В. Іўчанка. — Частка з іх спакушаецца нешта купіць, але гэта, як правіла, дробная сувенірная прадукцыя. У асноўным пакупнік арыентаваны на жывапіс, часцей у жанры пейзажу: вясковы, марыністычны, архітэктурны і графіка. Сярэднія кошты вар'іруюцца ў межах 300 — 350 долараў. Але існуе праблема і ў самых галерыстах. Наведвальнікі некаторых галерэй незадаволеныя адсутнасцю інфармацыі пра мастакоў, г. зн. з патэнцыяльнымі пакупнікамі не вядзецца індывідуальнай працы. Многія ўладальнікі ўпэўнены: калі іх галерэя размешчана ў цэнтры горада, наведвальнікі самі знойдуцца...

Раней лічылася прэстыжным купіць твор мастацтва вядомага майстра. Новыя беларусы пакуль яшчэ не гатовыя ўкладваць грошы ў творы вялікага мастацтва.

На праблемах існавання сучаснай беларускай фатаграфіі спыніўся фатограф і кіраўнік галерэі візуальных мастацтваў «NOVA» **Уладзімір Парфянок:**

— Немагчыма ўтрымліваць галерэю, прадаючы прыгожыя фотанацюрморты, — нерэнтабельна. Літаральна па пальцах можна пералічыць вядомых фотамастакоў, якія маюць пэўны творчы і фінансавы поспех. На жаль, у беларускай фатаграфіі пакуль няма статусу».

На развіцці інфармацыйнай прасторы засярodзіў увагу прысутных А. Зінкевіч:

— Сёння вы не знойдзеце пэўнай статыстыкі ці аналітыкі накont таго, што і як прадаецца. Ніхто не дасць на гэтае пытанне нават прыблізнага адказу. Для чалавека, які захоча стварыць галерэю, не будзе пэўных «маршрутаў», «карт», куды ісці і якія тэмы развіваць. І гэта, безумоўна, у многіх адбівае ахвоту.

Вельмі дрэннай я б назваў камунікацыю не толькі паміж айчыннымі творцамі, але і ўвогуле з мастакамі ўсяго свету. Напрыклад, у Расіі ёсць агульны сайт творцаў, дзе пададзена ўся інфармацыя пра іх біяграфію і работы, сайт айчыннага саюза мастакоў у гэтым сэнсе бедны. Адсутнічае пэўная сістэма рэйтынгаў музеяў, галерэй і творцаў.

Найбуйнейшы партал свету *art.net* аб'ядноўвае па выніках аўкцыённых таргоў крыху больш як дзвесце тысяч мастакоў. Я не паленаваўся і прачытаў яго — знайшоў двух выпадковых беларусаў. Часцей за ўсё ў графе «Краіна» стаіць прочырк ці пазначана Расія. А больш аўтарытэтны сайт знайсці складана.

**Таццяна ШЫМУК**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Васіль ЦІШКЕВІЧ, навуковы супрацоўнік Слуцкага краязнаўчага музея, распавядае пра праекты, якія ў пэўнай меры сталі сэнсам яго жыцця:**

— Калі прыступаеш да новага даследавання ці праекта, адразу задумваешся: ці будзе ён цікавы людзям? Ці захопіць ён па-сапраўднаму цябе самога? Гадоў дзесяць таму я пачаў вывучаць тапаніміку слуцкіх мястэчак, вёсак, засценкаў... Сам я мясцовы жыхар, нарадзіўся ў вёсцы Апаліны. Калі правёў маленькае даследаванне, даведаўся, што больш населеных пунктаў з такою назваю ў Беларусі няма.

Тапанімічная тэма захапіла. Пазнаёміўся з шэрагам ураджэнцаў раёна, якім давялося шмат чаго пабачыць у жыцці, зведаць і акупацыю, і страшэнную блакаду, прайсці праз калектывізацыю і ў рэшце рэшт аказацца далёка за межамі малой радзімы. Складаныя лёсы гэтых людзей так мяне ўразілі і зацікавілі, што я зрабіў навуковую даведку і падрыхтаваў некалькі лекцый: «Тапаніміка», «Нашчадкі вогненных вёсак», а цяпер сумесна з журналістамі нашага рэгіёна пачаў ажыццяўляць праект, разлічаны на некалькі гадоў. Мы распавядаем пра лёсы нашых суайчыннікаў. За мінулыя гады я сустрэўся з 50 ураджэнцамі раёна і запісаў шмат эксклюзіўнага матэрыялу. Амаль увесь вольны час і значную частку адпачынку аддаю стасункам са сваімі героямі. Разам ездзім у іх родныя мясціны, арганізуем сустрэчы землякоў, сяброў, праводзім у вясковых бібліятэках «круглыя сталы», завітваем у школы, дзе распавядаем дзецям пра тое, што адбывалася тут пры жыцці іх дзядоў і прадзедаў. Падчас гэтых даследаванняў сустрэў нават свайго стрыечнага дзядзьку, пра існаванне якога і не падазраваў. У наступным годзе разлічваю выдаць кнігу пра лёс случан у гады Вялікай Айчыннай вайны.

З дапамогай землякоў, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё спачатку савецкай, а потым расійскай касманаўтыкі, у музеі створана экспазіцыя «Случане і космас». Некаторыя ўраджэнцы горада, раёна і сёння паспяхова працуюць у гэтай сферы, і я вельмі ўдзячны лёсу, што меў магчымасць сустракацца з імі. Яны дапамагаюць нам камплектаваць фонды, што, спадзяюся, дазволіць адкрыць у Слуцку адзіны ў краіне музей авіяцыі і касманаўтыкі.

Мы праводзім сустрэчы школьнікаў з ветэранамі касмадрома «Байканур». Ладзілі выстаўкі, прысвечаныя касмічнай тэме, у дзіцячых санаторыях «Сонейка» і «Случ». Экспазіцыі выклікалі вялікую цікавасць у наведвальнікаў. Праект «Случане і космас» працягваецца. На мой погляд, ён можа стаць міжнародным, калі да яго падключацца музейшчыкі Расіі і Казахстана.

## Вучыцца культуры

У Гомельскай вобласці адбыўся семінар для работнікаў культуры Добрушскага раёна. Разам з супрацоўнікамі Гомельскага абласнога цэнтра народнай творчасці метадысты, дырэктары і мастацкія кіраўнікі мясцовых устаноў культуры абмяркоўвалі тэму «Страдаўнія народныя святы і абрады, сакральныя, паганскія і хрысціянскія святыні, традыцыйныя іміджавыя культурныя мерапрыемствы і іх пазіцыянаванне як аб'ектаў турызму ў Добрушскім раёне». Цікавай стала для ўдзельнікаў семінара інфармацыя пра абрад «Ваджэнне стралы», які прынеслі ў г.п. Церахоўка перасяленцы з в. Ачоса-Рудня гэтага ж раёна, абрад «Провады русалкі» ў в. Усохская Буда, традыцыйны ўніверсальны брэнд раёна — пленэр драўлянай скульптуры «Ожившая старина», раённае свята «Спасаўскі кірмаш». Удзельнікам семінара былі прадстаўлены 4 версіі паходжання назвы вёскі Перарост, а таксама багатая гісторыя вёскі Насовічы, 7 разоў на год ладзяцца традыцыйныя кірмашы.

**Ірына ГЛУШЭЦ**

*Музейны ўнікат*

# Паштоўка як сведка

**Чатыры гады таму на базе Міёрскай сярэдняй школы № 3 быў адкрыты Музей кнігі і друку. Сёння ў яго асноўных і навукова-дапаможных фондах налічваецца больш як 8 тысяч экспанатаў.**

У 16 раздзелах музея дэманструюцца старадрукаваныя і рукапісныя кнігі XVII — XX стагоддзяў на старaславянскай, польскай, лацінскай, французскай, італьянскай і іншых мовах. Багата прадстаўлены дарэвалюцыйнымі выданнямі раздзелы «Духоўная літаратура», «Падручнікі», «Старая беларуская кніга». Унікальныя знаходкі змешчаны ў экспазіцыі «Газеты». Самая старая з іх — «Пчала» 1882 года выпуску на нямецкай мове, а самы стары часопіс — на французскай мове — пабачыў свет у 1792 годзе. Разнастайная тэматыка раздзелаў «Календары», «Філуменія», «Філатэлія».



У фондах музея захавалася ўнікальная рэч — паштоўка, якая была выпушчаная прыблізна ў 1936 годзе. На ёй адлюстраваны алтар касцёла Святога Яна ў вёсцы Ідолта. Храм пабудаваны ў 1862 годзе на фундацыю шляхціца Мілаша ў неакласічным стылі. На пярэднім плане — ксёндз Францішак Пэрка.

Здымак зроблены падчас святкавання ўрачыстасцей Спаслання Духа Святога на Апосталаў, або, як казалі ў народзе, на «Зялёныя свёнткі». Пра гэта сведчаць бярозкі, якія ўпрыгожваюць алтар. Пасля пабудовы касцёла ў мястэчку Мілашова храм у Ідолце стаў дзейнічаць як капліца. Амаль адразу пасля вайны яе закрылі і прыстасавалі пад сховішча.

А вось пахаванні Мілашаў у сутарэннях капліцы былі разрабаваны і знішчаны. Толькі ў 1990 годзе пачалося аднаўленне святыні. Старая паштоўка дазваляе нам уявіць, як першапачаткова выглядаў касцёл.

**Вітольд ЕРМАЛЁНАК**

# У госці да «Мяцеліцы»

**Першы рэспубліканскі конкурс народных танцаў сярод аматараў з зімовай назвай «Мяцеліца» адбыўся ў сталічным Палацы мастацтва. Снежаньскі танцавальны нон-стоп, у якім узялі ўдзел каля 40 танцавальных пар з розных рэгіёнаў Беларусі, працягваўся тут прыкладна сем гадзін. Конкурсы, падобныя да «Мяцеліцы», на працягу амаль дваццаці гадоў з поспехам праходзілі ў Гомелі, Бабруйску, Гродне, Пінску, Чачэрску, г. п. Акцябрскі Гомельскай вобласці. Неўзабаве надышла і чарга сталіцы.**



*Фота Наталлі Купрэвіч*

У мерапрыемствах такога кшталту шмат што залежыць ад творчай апантанасці ініцыятара і кіраўніка. У гэтым плане танцавальнаму конкурсу пашанцавала. Імя Міколы Козенкі, навуковага кіраўніка і аўтара ідэі «Мяцеліцы», вядомага этнахарэографа, мастацкага кіраўніка шэрагу конкурсаў і фестываляў сярод прыхільнікаў народнага мастацтва — адно з найбольш вядомых у сваёй галіне. У якасці аднаго з арганізатараў конкурсу выступіла Школа традыцыйнага мастацтва фальклорнага гурта *Guda*.

Экспертная рада «Мяцеліцы» таксама зорная. Гэта Мікола Котаў — балетмайстар прафесійнага ансамбля «Свята», фалькларыст; Алесь Лось — даследчык традыцыйнай музыкі і танца, мастак, музыка; Любоў Сівурава — дацэнт кафедры менеджменту сацыяльна-культурнай дзейнасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў — і Сяргей Выскварка — спецыяліст па традыцыйным танцавальным этыкеце і манеры выканання танцаў.

Сам конкурс праходзіў у два этапы, у кожным з якіх былі прадстаўлены ўдзельнікі дзвюх узроставых груп: старэйшай і малодшай. У першым этапе бралі ўдзел усе канкурсанты, а ў другім — толькі тыя, хто набраў адпаведную колькасць балаў. На першым этапе расклад танцаў быў такі: кракавяк, «Ночка» і «Лявоніха». У другім — падэспань, барыня і полька імправізаваная.

— Для першага конкурсу ў сталіцы каля 40 пар удзельнікаў — вельмі добры пачатак. Тое, што яны прадэманстравалі сёння, — гэта ўнікальная з'ява ў сваёй непасрэднасці, танцавальным руху, — з задавальненнем падсумаваў Мікола Козенка.

**Анастасія КАПЦАВА**

*Цікава ведаць*

# Званіца ажывае

Сёння ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту адбудзецца прэзентацыя новай экспазіцыі — капліцы з вёскі Каралеўцы Вілейскага раёна. Гэта знакавая культурная падзея, бо сам помнік — унікальны, адносіцца да тыпу храмаў-ратонд. Вельмі рэдкая з'ява ў культавым дойлідстве Беларусі! Капліца была ўзведзена ў 1802 годзе «...тщанием крестьянина Александра Рогача». Рэстаўрацыйныя работы на помніку вяліся ў межах праграмы «Культура Беларусі» з 2012 па 2013 год падрадчай арганізацыяй ААТ «Белрэстаўрацыя».

Капліца — адзін з самых цікавых экспанатаў музея пад адкрытым небам. Яе інтэр'ер адноўлены па архіўных звестках, фотаздымках, экспедыцыйных матэрыялах. Унутры капліцы можна пазнаёміцца з унікальнай храмавай традыцыяй Вілейскага краю. Прадстаўлены алтары, «на оптыку маляваныя», а таксама абразы, скульптура, традыцыйнае ткацтва. Уражваюць і ўнутраныя канструкцыі храмавай архітэктуры.

Напярэдадні адкрыцця экспазіцыі на званіцы з'явіўся ўнікальны звон. Падчас прэзентацыі наведвальнікі змогуць пачуць яго гук. А значыць, ёсць надзея, што ў музеі пачне адраджацца традыцыя музыкі старых званіц.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# «Душой да Радзімы сваёй прытуліцца»


Фота Наталлі Траяўскай

Чым глыбей мы займаемся краязнаўствам, тым больш даведваемся пра беларусаў, якія ў розныя часы выявілі ў сабе высокую нацыянальную годнасць. Сёлета на Дзяржыншчыне (у мінулым — Койданаўшчына) прайшло шмат падзей, якія пацвярджаюць гэтае перакананне. Пра іх існасць і значнасць для сучаснікаў — інтэрв'ю з галоўным рэдактарам дзяржынскай раённай газеты «Узвышша», членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Аленай Стэльмах.

**— Алена Анатольеўна, дзякуючы вашай грамадскай ініцыятыве на Дзяржыншчыне нададзены новы імпульс краязнаўчай рабоце.**

— Штуршком да гэтага стаў лёс маёй роднай вёскі Навасады. Калі археолагі даследавалі навакольныя мясціны, знайшлі ляпную штрыхаваную і ганчарную кераміку, якая адносіцца да ранняга жалезнага веку і часоў існавання Кіеўскай Русі. Гэта значыць, што людзі жылі тут 2000 — 2400 гадоў таму. Па афіцыйных звестках, вёска вядомая з XVIII стагоддзя.

Карусь Каганец, вядомы прадстаўнік беларускага адраджэння, часта бываў у Навасадах, дзе жылі сваякі яго жонкі, Ганны Пракаповіч. Да таго ж, ён увогуле захапляўся жыццём вёскі. Пра ўзровень свядомасці яе жыхароў сведчыць той факт, што яшчэ ў 1885 годзе тут была адкрыта школа граматы. Паездкі сюды садзейнічалі фарміраванню ў Каруся Каганца рэвалюцыйнага светапогляду. Дарэчы, у 1905-м ён трапіў у Мінскую турму за агітацыйную дзейнасць сярод сялянства Койданаўшчыны.

У савецкі час вёска была цэнтральнай сядзібай калгаса, уваходзіла ў склад Навасадскага сельсавета. У гады вайны ў тутэйшых лясах актыўна дзейнічалі партызанскія атрады. Навасады ледзьве не напаткаў лёс суседніх спаленых вёсак. Перажыўшы вялікае гора, людзі асабліва цанілі жыццё.

Казалі, раней з вясковай гары быў бачны будынак опернага тэатра ў Мінску. Агні сталіцы нібы магнітам прыцягвалі моладзь.

Навасады прыціхлі: не сысці б у нябыт... А сёлета 1 чэрвеня тут адбылося вялікае свята, якое ператварылася ў своеасаблівы рух вёсак на Дзяржыншчыне...

**— Працягам краязнаўчых пошукаў стала адзначэнне 145-годдзя з дня нараджэння Каруся Каганца. Як гэта адбылося?**

— Карусь Каганец, пры ўсёй павазе да яго, застаецца асобай па-сапраўднаму не раскрытай, недаацэнены яго ўклад у нацыянальна-вызваленчы рух на Беларусі. Ён быў сярод першых беларускіх мысліцеляў, асэнсоўваў грамадскія працэсы, якія адбываліся на мяжы двух стагоддзяў, выказваў уласнае стаўленне да іх як праз асветніцкую дзейнасць, так і праз літаратурныя вобразы. Дарэчы, сюжэт яго камедыі «Модны шляхцюк» папярэднічаў купалаўскай «Паўлінцы». Вядома, што значную частку жыцця Карусь Каганец правёў сярод працоўнага сялянства і меў пры гэтым узровень вучонага-моваведа, фалькларыста, мастака, скульптара.

Хто, як не землякі, будзе ў поўны голас гаварыць пра спадчыну Каганца, адкрываць новыя старонкі ў дзейнасці markdown разнабаковага творцы? Так нарадзіўся яшчэ адзін краязнаўчы праект, вынікам якога стаў літаратурны маршрут па койданаўскіх мясцінах Каруся Каганца. Ён пачынаецца з могілак у Вялікіх Навасёлках, дзе знайшоў апошні прытулак нястомны змагар. У музеі мясцовай школы сабраны багаты матэрыял пра ўвесь род Кастравіцкіх. Тут жа, у Навасёлках, можна агледзець будынкі былога панскага маёнтка. Затым — шлях на Юцкі, побач з якімі, ва ўрочышчы Лісія Норы, знаходзілася сядзіба Каганца. Час знішчыў яе. Таму далей — у Навасады, дзе расце трохсотгадовы дуб і стаіць такая ж старадаўняя хата — сведкі часоў Каганца.

**— Адзін з апошніх праектаў — ушанаванне памяці Адольфа Янушкевіча. Што значыць гэтая асоба для Дзяржыншчыны?**

— Магчыма, пакуль па-сапраўднаму не ацэнена роля і значнасць асобы Адольфа Янушкевіча не толькі на Дзяржыншчыне, але і наогул у краіне. Ён з ліку тых беларусаў, хто праявіў сябе на чужыне. Таму такім доўгім аказаўся шлях да асэнсавання зробленага ім.

Адольф Янушкевіч, як нямногія ссыльныя, адбыў тэрмін пакарання да апошняга дня. Весткі з дому ад родных, блізкіх надавалі яму сілы. Сам ён адправіў у Дзягільна больш як 600 лістоў. Адсюль, напрыклад, яму пасылалі насенне, якому ён вельмі радаваўся, бо ў Сібіры змог закласці сваю бахчу.

Вярнуўся нястомны вандроўнік на бацькоўскую сядзібу ў Дзягільна ў 1856 годзе. Але лёс наканаваў яму толькі год жыцця на Радзіме…

**— Хто спрычыніўся да мемарыялізацыі імя Адольфа Янушкевіча ў першую чаргу?**

— Цікавасць да даследчыка гісторыі казахскіх качэўнікаў узнікла ў 1966 годзе, калі Фаіна Сцяклова ў Алма-Аце пераклала на рускую мову яго падарожныя «Дзённікі».

Крыху пазней на Дзяржыншчыне рабіўся шэраг захадаў з боку мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея, археолагаў Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, проста неабыякавых людзей па пошуку на сямейных (старых Панскіх) могілках месца пахавання знакамітага земляка. Пра Янушкевіча пісала рэспубліканская і мясцовая прэса.

Пераклад з польскай мовы кнігі «Жыццё Адольфа Янушкевіча», зроблены Ганнай Суднік-Матусевіч, таксама паспрыяў росту цікавасці казахаў да выхадца з Беларусі.

**— Мерапрыемствам, звязаным з памяццю пра Адольфа Янушкевіча, нададзены міжнародны статус. Наколькі вядомы беларус Янушкевіч у свеце?**

— Навіна пра тое, што ў Дзяржынску будзе ладзіцца свята у гонар Янушкевіча, уразіла маштабнасцю яе ўспрымання. Першым адгукнуўся казахскі рэжысёр Сяргей Шафір, які жыве ў Ізраілі. Асобная частка яго дакументальнага фільма «Урокі польскай» прысвечана Адольфу Янушкевічу. Цяпер творца мае матэрыял для стварэння асобнай кінастужкі.

Сваю павагу да Адольфа Янушкевіча выказалі госці з Казахстана, якія прыехалі, каб узяць удзел ва ўрачыстасцях. Яны падкрэслілі значнасць ролі знакамітага падарожніка, этнографа, пісьменніка не толькі для захавання культурнай спадчыны свайго народа. Казахскі пісьменнік Хакім Амар перакананы, што Янушкевіч, праявіўшы талент вялікага цюрколага, у сваіх працах пакінуў унікальнае сведчанне пра значэнне качэўнікаў у развіцці сусветнай цывілізацыі.

**— Што, на ваш погляд, трэба яшчэ зрабіць дзеля захавання памяці пра Янушкевіча ў Беларусі?**

— Ёсць прапанова стварыць спецыяльны фонд імя Адольфа Янушкевіча. Яе агучылі прадстаўнікі Казахстана, на гэтым настойваў у час Койданаўскіх чытанняў і наш шаноўны прафесар Адам Мальдзіс. Фонд сапраўды можа стаць каардынацыйным цэнтрам розных кірункаў работы. Напрыклад, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук Мікалай Крывальцэвіч плануе прадоўжыць археалагічныя пошукі на сямейных могілках Янушкевічаў. Супрацоўнікі Дзяржынскай цэнтральнай бібліятэкі мяркуюць выдаць зборнік па выніках Койданаўскіх чытанняў.

Гучнасць імені могуць надаць і вуліцы, установы адукацыі, культуры, названыя ў гонар Янушкевіча, як гэта ўжо зроблена ў галоўных гарадах Казахстана. На маю думку, лагічна пачаць з Дзяржынска, Нясвіжа.

**— Ці можа так стацца, што некаторыя вашы краязнаўчыя ініцыятывы знойдуць працяг у кнізе?**

— У творах Каруся Каганца знайшла шмат спасылак на навасадскія краявіды, тутэйшыя мясціны. Атрымалася своеасаблівае даследаванне «Я-то, у Навасады паджагаў» — вёска ў жыцці і творчасці Каруся Каганца. Калі пасяджу яшчэ ў архівах, можа скласціся кніга. Выдаць яе лічу сваім абавязкам перад краем, дзе з'явілася на свет. Мару такім чынам прыцягнуць да Навасадаў увагу дзелавых людзей. Лепшых умоў для развіцця агратурызму не знайсці.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

*З нагоды*

# Яго сад у Баярах

Прэзентацыя новага зборніка паэзіі Уладзіміра Ляшкевіча прайшла ў Ільянскай школе імя А. А. Грымаця, што на Вілейшчыне.

Пасля шматгадовай працы асобныя вершы творцы склаліся ў кнігу «Праўда жыцця». Мяне ўразіла вокладка— яе намаляваў сам аўтар. З вясковай хаты, на якой раскінуў крылле бусел, выходзіць на шырокую дарогу хлапчук з кнігай... Вось так пачынаў свой шлях Уладзімір Ляшкевіч — настаўнік, музыкант, аматар прыроды і… паэт!

Зборнік тэматычна разнапланавы. Уладзімір Аляксандравіч бачыў вайну вачыма дзіцяці. Успаміны да гэтага часу жывуць у яго душы: гаротныя слёзы маці, паранены на вайне бацька, які хутка памёр… Ужо дарослым У. Ляшкевіч па-сапраўднаму ўсвядоміў страты, жах адзінай сведкі (стрыечнай сястры) Фаіны Анасовіч, якая засталася жывой пасля расправы фашыстаў з жыхарамі вёсак Любча і Боркі. Для творцы словы «Маці», «Радзіма», «Хлеб» — святыя. Пра гэта і яго вершы.

Аўтар імкнецца сваім жыццём, працай, творчасцю развіваць духоўнасць у моладзі («Маім вучням», «Царкоўныя званы», «Памяці паэта»). Чым старэйшы чалавек, тым больш ён задумваецца над сэнсам жыцця. Для Уладзіміра Аляксандравіча галоўнае — жыць годна, не рабіць людзям зла.

У свой час ён закончыў Ільянскі ветэрынарны тэхнікум, служыў у арміі, паступіў у Белдзяржуніверсітэт на біяфак. Лепшы сябра і стрыечны брат Іван Лашутка, паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, прыкмеціўшы паэтычныя здольнасці юнака, параіў яму ісці на філфак. Але Уладзімір выбраў расліны свет. Пазней сам стаў эксперыментаваць: прышчэпліваў садовыя дрэўцы, выводзіў новыя гатункі. Сёння яго сад у Баярах ведаюць многія.

**Роза ШЭРАЯ**

# Казка шыцця

Музей гісторыі горада Мінска запрашае аматараў і знаўцаў лапікавага шыцця на выставу «Калядныя ўзоры», на якой прадстаўлены арыгінальныя работы Антаніны Сідзельнікавай.

Антаніна Мікітаўна нарадзілася ў Белгарадзе, скончыла Харкаўскі архітэктурны інстытут. З 1968 года працавала ў беларускай сталіцы. Апошнія гады жыцця прысвяціла лапікаваму шыццю, вывучэнню старажытнаславянскай міфалогіі. А ў 1998-м пабачыла свет адзіная кніга творцы — зборнік вершаў «У возвышенной печали».

На выстаўцы прадстаўлена каля 40 работ Антаніны Сідзельнікавай: пано ў тэхніцы лапікавага шыцця, прадметы інтэр'еру, адзенне. Творчасць майстра прасякнута светлымі думкамі, яркімі пачуццямі, духам даўніны. Кожная кампазіцыя — сінтэз унутранага свету творцы і даўніх легенд і паданняў. Майстэрства аўтара дазволіла стварыць з каляровых лапікаў тканіны новы сусвет, напоўнены незямнымі істотамі, дзіўнымі раслінамі, казачнымі палацамі, кветкамі, птушкамі.


*Антаніна Сідзельнікава «У пошуках пунсовай кветачкі», 2000 г.*

Шырокім карагодам паўстаюць перад гледачом святы ў гонар Сонца, пошукі папараць-кветкі, качанне велікодных яек…

Гармонія ў творах аўтара дасягаецца не толькі шляхам дасканалай пабудовы кампазіцыі, удалага спалучэння колераў і фактур тканіны, але і самім сюжэтам, сэнсам.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Таямніца класіка

Народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Гаўрыіл Вашчанка — знакавая фігура ў беларускім нацыянальным мастацтве, тонкі філосаф, сапраўдны творца, выдатны педагог, які выхаваў не адно пакаленне мастакоў-манументалістаў. Ён мае багатую жыццёвую і творчую біяграфію. У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь працуе выстаўка «Таямніца ночы», прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння майстра.



Фота з сайта www.artmuseum.by

*З адкрыццём выстаўкі «Таямніца ночы» мастака Гаўрыіла Вашчанку віншуе першы намеснік міністра культуры РБ Уладзімір Карачэўскі.*

Асаблівасцю экспазіцыі з'яўляецца тое, што ўсе творы, якія ўвайшлі ў яе (а іх больш як 60), — уласнасць майстра. Пераважна гэта карціны і пастэлі, створаныя ўжо ў XXI стагоддзі: «Маладзік» (1999), «Белавежская поўня» (1999), «Святло і цені» (1999), «Крэва» (2000), «Возера маладзіком свяцілася» (2000), «Вячэрняя малітва» (2007), «Сутыкненне» (2009), «Васільковая чаша» (2009), «Возера Свіцязь» (2009) і інш. Гэтыя факт сведчыць пра творчую актыўнасць мастака, яго невычэрпную энергію. Кожная новая работа для яго — адкрыццё нязведанага свету.

— Цяперашняя выстаўка — плён шматгадовых разважанняў, навеяных і бяссонніцай, і нейкімі жыццёвымі эпізодамі. А таксама старадаўнімі павер'ямі, легендамі. Бо ноч заўсёды хавае мноства таямніц, — адзначыў сам Гаўрыіл Вашчанка.

Нарадзіўся Гаўрыіл Харытонавіч у 1928 годзе на Гомельшчыне, у вёсцы Чыкалавічы. Палессе з яго адметнай культурай стане адной з асноўных крыніц яго натхнення, тэм яго работ. Вучыўся Г. Вашчанка ў Кіеўскім вучылішчы прыкладнога мастацтва, працаваў на кінастудыі імя А. Даўжэнкі. Затым — Львоўскі інстытут прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва, пасля заканчэння якога выкладаў у Кішынёўскім мастацкім вучылішчы.

У Мінск творца пераехаў у 1961-м, калі на мастацкім факультэце Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута было створана аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Паколькі для новай кафедры не хапала кваліфікаваных выкладчыкаў, іх шукалі ў суседніх рэспубліках. А праз тры гады, калі з дэкаратыўна-прыкладнога аддзялення вылучаецца ў асобную кафедру манументальны жывапіс, мастак становіцца яе загадчыкам. Такім чынам, беларуская манументальная школа фарміравалася, перш за ўсё, на творчасці Г. Вашчанкі. Усе манументалісты, якія вучыліся на гэтай кафедры з 1964 па 1975 год, — яго вучні.

Здавалася б, пры такой занятасці ў інстытуце бракуе часу для творчасці. Аднак Гаўрыіл Харытонавіч не толькі таленавіты педагог, але і плённы аўтар, як у галіне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, так і ў станковым жывапісе. Менавіта ў 1960 — 1970-я гады з'яўляюцца творы, якія склалі ў залаты фонд беларускага нацыянальнага мастацтва: «Балада пра мужнасць», «Маё Палессе», «Мацярынскія крылы», «Вераснёвыя туманы», «Першы снег», «Жнівень» і інш.



*Гаўрыіл Вашчанка «Белавежская поўня», 1999 г.*

Для майстра пры стварэнні карціны важна не толькі раскрыць тэму, але і знайсці яе пераканаўчы пластычны вобраз.

— Мае работы так ці інакш звязаны з жыццёвымі рэаліямі, — прызнаецца мастак. — Я заўсёды пісаў шмат эцюдаў, рабіў замалёўкі. Але, калі ўзнікае канкрэтная задума карціны, як правіла, пленэрнымі замалёўкамі не карыстаюся. Мае назіранні, уражанні — толькі штуршок для развіцця тэмы. Карціна можа вельмі далёка адысці ад таго, што было зыходнай кропкай для яе стварэння. Яна павінна быць пабудавана кампазіцыйна дакладна, пластыка і колер падпарадкаваныя зададзенай тэматыцы. Гэта ўжо не імправізацыя, а інтэлектуальная праца.

— Манументальныя і жывапісныя работы Гаўрыіла Вашчанкі — класіка беларускага мастацтва XX — XXI стст. Яго творы ўвасобілі цэлую эпоху — з яе ідэальнымі памкненнямі і балючымі расчараваннямі, складанымі грамадскімі зменамі і чалавечымі трагедыямі, — адзначае мастацтвазнаўца Наталля Шарангові.

І сёння Гаўрыіл Харытонавіч кожны дзень прыходзіць у майстэрню. Піша алегарычныя, умоўна-міфалагічныя вобразы, у аснову якіх пакладзены філасофскі сэнс, аналітычнае ўспрыманне рэчаіснасці, стварэнне сімвалічнай карціны. Мастак па-ранейшаму з захапленнем вывучае навакольнае асяроддзе, каб потым, адлюстроўваючы яго, выказаць уласныя філасофскія меркаванні. Можа быць, таму, гледзячы на карціны Гаўрыіла Вашчанкі, хочацца вярнуцца да вытокаў нашай духоўнасці.

Выстаўка «Таямніца ночы» будзе экспанавацца па 13 студзеня.

**Таццяна ШЫМУК**



Фота Кастуся Дробава

*Скарб манет рымскай чаканкі I — II стст. н. э.*

# «Апостал» і скрыпка Маджыні

Сапраўдныя скарбы прадстаўлены ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Тут упершыню прадставілі поўную рэтраспектыву культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі ў выставачным праекце «Банк БелВЭБ: новае жыццё нацыянальных скарбаў».

Выстаўка ўяўляе сабой прэзентацыю шэрагу музейных калекцый і мае на мэце прыцягненне ўвагі да захавання, вывучэння і папулярызацыі збору музея, а таксама ўдзелу фінансавых структур у працэсах яго фарміравання і прадстаўлення культурнай грамадскасці. Экспазіцыя асобна акцэнтуе каштоўнасці, якія дзякуючы партнёрству банка з Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь атрымалі новае жыццё.

На выстаўцы прадстаўлены прадметы з 26 фондавых калекцый музея: археалогіі, каштоўных металаў, скарбаў, нумізматыкі, іканапісу, музычных інструментаў, выяўленчага мастацтва, нацыянальнага касцюма, зброі і інш. Гэта карта Вялікага Княства Літоўскага (1613 — 1630), якая была набыта банкам для музея ў 2008 годзе, калекцыя старадрукаваных кніг XVII — XVIII стст. з былой бібліятэкі Будслаўскага бернардынскага манастыра. Унікальная срэбная манета ручной працы Вялікага Княства Літоўскага часоў князя Вітаўта і калекцыя нацельных крыжыкаў беларуская паходжання X — XVII стагоддзяў.

Сярод экспанатаў — вырабы маскоўскай фабрыкі брыльянтавых, залатых і срэбных вырабаў І. Хлебнікава, каталіцкі фератрон, адрэстаўраваны рарытэтны старадрук «Апостал» XVI стагоддзя, падсвечнікі XVIII ст. майстэрні Барбедзьена (Францыя). Калекцыя фарфору прэзентуе асобныя прадметы з Ордэнскага сервіза, выраблена на знакамітым імператарскім фарфоравым заводзе ў Санкт-Пецярбургу. Прадстаўлены ўзоры зброі і рускія іконы XIX стагоддзя, гонар калекцыі музычных інструментаў — скрыпка Джавані Паола Маджыні 1596 года. Адзін з раздзелаў калекцыі складаюць інструменты работы айчынных народных майстроў, сярод якіх знакаміты В. Пратасевіч.

З шэдэўраў калекцыі выяўленчага мастацтва — партрэт М. Багдановіча, выкананы Л. Сляндзінскім у 1981 годзе. Творчасць мастака XIX ст. Ю. Азямблоўскага ўпершыню прадстаўлена на выстаўцы літаграфіямі з відамі Вільні. У экспазіцыю таксама ўвайшлі ўзоры традыцыйнага беларускага жаночага касцюма, унікальныя царскія вароты з Георгіеўскай царквы Давыд-Гарадка XVIII стагоддзя і яшчэ больш як 150 рэдкіх экспанатаў.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2602.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 19.12.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5332.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686